PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 7 (2075) ГОД XLI БЕЛАСТОК 18 ЛЮТАГА 1996 г. ЦАНА 70 грошаў (7000 ст. зл.)



**Размова з прафесарам Андрэем Садоўскім, кіраўніком Кафедры сацыялогіі Філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку, аўтарам шматлікіх навуковых прац на тэму сацыялагічных праблемаў польска-беларускага памежжа.**

## ПАДЗЕННЕ МІФАЛОГІІ УСХОДУ

*— Спадар прафесар, ці сацыялагічныя даследаванні даюць адказ, адкуль выцякае крыніца такіх ці іншых грамадскіх настрояў?*

— Можна сказаць, што сацыялагічныя даследаванні займаюцца ў асноўным спосабам акрэслення стану грамадскіх працэсаў, як і іх абумоўленасці. Ход развіцця працэсаў у галіне свядомасці трэба даследаваць на працягу нейкага часу, тады толькі могуць быць трапныя адказы на ўсе пытанні. Лепшага спосабу акрэслення грамадскіх настрояў, як сацыялагічныя даследаванні, я не бачу.

Сёння, калі нараджаецца дэмакратыя, усялякія палітыкі заяўляюць, напрыклад, што: „грамадства думае", „грамадства чакае..." і г.д. Але каб праверыць, наколькі такія выказванні згодныя з праўдай, трэба проста правесці акрэсленыя даследаванні. Сёння бачым найлепей, якую ролю адыгрываюць усякія інстытуты даследавання грамадскай думкі. Спаборніцтва паміж імі прывяло да вельмі высокага ўзроўню вынікаў іх працы. Прагнозы вынікаў парламенцкіх выбараў былі трапныя. Гэта паказвае даволі дакладна, у якім напрамку ідуць грамадскія чаканні, якія словы і жэсты маюць найбольшы ўплыў на свядомасць. Трэба толькі заўважыць, што некаторыя прыкметы грамадскай свядомасці ёсць трывалыя і вельмі лёгка яны заўважаюцца, іншыя часта мяняюцца і цяжка ў кароткі час, калі яны выступаюць, дакладана іх азначыць.

Сацыялагічныя даследаванні гэта таксама аснова сучаснага маркетынгу. Можна даволі дакладна акрэсліць, што людзі будуць купляць праз год ці два.

Я праводзіў даследаванне грамадскай думкі на польска-беларускім памежжы. Неўзабаве пакажацца кніжка, якая будзе падвядзеннем вынікаў маіх даследаванняў гэтай тэмы на працягу некалькіх гадоў.

*— Як затым выглядае псіхічная форма беларусаў Беласточчыны ў час палітычных і эканамічных пераўтварэнняў?*

— На гэта пытанне магу адказаць спасылаючыся менавіта на выніхі маіх шматгадовых даследаванняў. Беларуская меншасць генеральна не прымала актыўнага ўдзелу ў гэтых пераўтварэннях. Падыход да іх з боку беларусаў быў вельмі пасіўны, з недаверам для ініцыятараў новага руху. Але беларуская меншасць гэта паняцце вельмі агульнае і шырокае. Была беларуская эліта, сярод якой можам назіраць такія самыя працэсы як у польскім інтэлігенцкім асяроддзі. У канспірацыі выдавалася забароненая літаратура, узнікалі арганізацыйныя структуры. У 80-х гадах адбыўся працэс інстытуцыяналізацыі беларускай інтэлігенцыі.

Інакш гэта выглядала сярод асноўнай масы беларускага грамадства, дзе ўсялякія змены ўспрымаліся з недаверам і падазронасцю, а таксама захоўвалася прыхільнасць да старых структураў. Паміж беларускай элітай і грамадствам выступіў вялікі пралом. Частка праваслаўных жыхароў спачатку ўключылася ў рух „Салідарнасць", але без такога захаплення як каталікі. Вёска адрэагавала на змены больш канкрэтна. Цяжкасці з продажам тавараў, пасля рэлятыўна нізкія цэны на сялянскія прадукты не маглі выклікаць прыхільнасці да новых улад. Калі яшчэ ўлічым нарастаючую прапаганду каталіцызму ў сродках масавай інфармацыі, маем поўны вобраз адчування праваслаўнага сялянскага асяроддзя Беласточчыны.

Спачатку назіралася сярод гэтай грамадскасці вялікая разгубленасць, а кансалідацыя яе наступала не вакол беларускасці, а праваслаўя і Праваслаўнай царквы. Надта выразна гэта відаць на працэсе росту папулярнасці архіепіскапа Беластоцкага і Гданьскага Савы.

Цяжка даследаваць духоўныя і псіхалагічныя абумоўленасці сучаснага стану настрояў сярод праваслаўнай грамадскасці Беласточчыны. Адзін аднак фактар ёсць надта заўважальны: **палітычныя падзеі адабралі ў грамадскай свядомасці беларусаў Беласточчыны штосьці, што можна было б назваць міфалагічным уяўленнем Усходу. Міфалогія стварала пачуццё нейкай культурнай супольнасці з народам ці тымі народамі, якія знаходзіліся за ўсходняй мяжой. Праўда аказалася надта сумнай.** Уяўленне пра савецкую краіну справядлівасці, народу сумленных, працавітых і гасцінных яе жыхароў замяніў вобраз Усходу пасваранага, слабога, раздзіранага этнічнымі канфліктамі, поўнага бяды і несправядлівасці. Гэты рэальны Усход зрабіўся раптам чужы. Хаця, напрыклад, узнікла беларуская дзяржава, беларускасць на Беласточчыне не атрымала адтуль — у сэнсе псіхалагічным — такіх спрыяльных імпульсаў. Наадварот, назіраецца пабольшаная колькасць пошукаў свае тоеснасці ў сферы веравызнання. Сярод маіх рэспандэнтаў-беларусаў амаль ніхто не атаясамліваў Беларусь як сваю ідэалагічную айчыну. І зусім не з тае прычыны, што тая айчына — бедная.

У той жа час змяніўся таксама вобраз Захаду. У месцы страйкаў, класавай барацьбы, несправядлівасці, карупцыі і злачынства, што найчасцей паказвала прапаганда мінулай эпохі, з'явіўся нейкі сэнсоўны парадак і стабільная эканамічна-палітычная сістэма, кантрастуючая з тым, што ў сапраўднасці было на Усходзе.

*— Спадар прафесар, ці вы не лічыце, што частка праваслаўнага насельніцтва далей шукае сваю тоеснасць і гэты працэс будзе яшчэ нейкі час працягвацца?*

— У пэўным сэнсе можна так сказаць, аднак больш ужо выступае элементаў замацоўвання выбранай нацыянальнасці, чым знаходжання ў стане неакрэсленасці. Праваслаўныя ўжо даволі рашуча могуць адказваць на пытанне пра нацыянальнасць, але робяць гэта вельмі неахвотна. Лічаць, што гэта сфера нейкай інтымнасці, пра што не варта надта адкрыта гаварыць.

Паводле нашых даследаванняў рашучая большасць праваслаўных жыхароў Беласточчыны лічыць сябе палякамі і не толькі ў такім сэнсе „я лаяльны грамадзянін польскай дзяржавы", але ёсць гэта польскасць салідна палітычна і культурна абгрунтаваная. Ёсць пэўныя праблемы ў самаадчуванні праваслаўных палякаў, а менавіта з прычыны неадлучнага лозунгу польскага патрыятызму які гучыць: „паляк-каталік". Як ні дзіўна, гэта абмяжоўвае ў нейкім працэнце асіміляцыйныя працэсы.

Другая група праваслаўных гэта тыя, якія не адчуваюць сябе палякамі. Сярод іх ёсць дзве катэгорыі: першая — гэта рашуча акрэсленыя як беларусы і другая — палякі, але з глыбокай свядомасцю сваіх беларускіх ці праваслаўных каранёў, а можа, дакладней, — людзі дзвюх культур. Я быў вельмі здзіўлены, што так мала рэспандэнтаў акрэсліла сябе ўкраінцамі. Хаця, калі слухаць сродкаў масавай інфармацыі, можа скласціся ўражанне, што іх тут шмат, але ў сапраўднасці выступаюць яны ў маргінальнай колькасці. Усё паказвае, што асіміляцыйныя працэсы сярод беларусаў будуць пашырацца. Няма ніякіх прадпасылак, каб заснаваў адваротны працэс вяртання з польскасці ў беларускасць. Імкненне беларускай грамадскасці да супрацоўніцтва, згода, бесканфліктнае вырашанне праблемаў спрыяла добраахвотнаму ўваходжанню ў сферу польскай псіхікі. Сёння нават адносіны да праваслаўя не абапіраюцца на дактрынальных аргументах, а толькі на яго вонкавых прыкметах. Хапае памяняць

*Працяг на стар. 4*



*На раённым аглядзе беларускай песні ў Беластоку спявае маладзёжны калектыў „Каласкі", які вядзе Ала Дубец. (Пра раённыя агляды чытайце на стар. 8.)*
**Фота Сяргея Грынявіцкага**

## МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Tajemnice państwa leżą dzisiaj na ulicy. Po informacje oznaczone klauzulą poufności lub zwykłej tajności nikt się już nawet nie schyla. W cenie są jedynie tajemnice specjalnego znaczenia. Legiony urzędników państwowych, polityków i szpiegów rozpoczęły wielki wyścig do gazet: komu jeszcze można coś zaoferować, podpowiedzieć, sprzedać... Kilka miesięcy temy krążył nawet cennik, gdzie nagrodą za informację pozwalającą obalić premiera był jaguar, 250 mln płacono za ministra. Pole pod dzisiejsze dziennikarskie zbiory zostało dobrze przygotowane...*

*Tej lawiny nie da się już zatrzymać. Wszyscy grają jakieś swoje gry, i nie ma co się dziwić, chociaż trudno oprzeć się wrażeniu, że to gra rządzi politykami, a nie politycy grą... Upadek moralny polskiej polityki stał się faktem. Już chyba nic gorszego ani nie może się zdarzyć, ani nawet przyśnić.*

*Polityka, nr 4*

***

*Trudno dziś czytać gazety bez obrzydzenia,* — піша Адам Міхнік.

*Gazeta Wyborcza, nr 19*

Рэдактар Міхнік сваю газету не бярэ нават у рукі.

***

*Rosjanie dali światu wielką lekcję. Zachód powinien być im wdzięczny, bo ocalili świat przed komunizmem. Idea komunizmu była uniwersalna i gdzieś się musiała zrealizować, a Rosjanie wzięli ją na swoje barki, tym samym ocalili Zachód przed tym szaleństwem.*

*Polityka, nr 3*

Вялікая цана гэтай інтэрнацыянальнай місіі рускага народа.

***

*Z zakończenia wojny nie są zadowoleni bośniaccy Muzułmanie. Paradoksalnie niepodległa Bośnia może istnieć w stanie permanentnej wojny — hasło wojny z niewiernymi prowokuje hojność całego islamskiego świata. Pokój oznacza także upadek wielu firm, które wyspecjalizowały się w usługach dla zachodnioeuropejskich maniaków. Jeszcze niedawno serbscy i chorwaccy „przedsiębiorcy" pobierali kilkadziesiąt tysięcy dolarów za umożliwienie gościom z zachodu udziału w pacyfikacji wsi. Firma taka organizowała polowanie na ludzi i gwarantowała wszystko — „niezapomniane wrażenia", odpowiedni sprzęt, zakwaterowanie i wyżywienie.*

*Wprost, nr 4*

***

*На пачатку года ў Беларусі з'явілася дзіўнае стварэнне: аргкамітэт Камітэта грамадскай падтрымкі першага прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Калі ветэраны Узброеных Сіл і пенсіянеры вырашылі бараніць ад кагосьці свайго прэзідэнта, то няўжо яму і што-небудзь пагражае?*

*Літаратура і мастацтва, н-р 2*

***

*Na Białorusi możliwa jest trzecia runda wyborów parlamentarnych, jednak wszystko zależy od woli prezydenta. Może on powiedzieć, że państwa nie stać na jeszcze jedną kosztowną dogrywkę. A że niektóre okręgi nie są reprezentowane w parlamencie — to czort ich brał.*

*Kurier Poranny, nr 23*

***

*Donosicielstwo, ta jedna z najpierworodniejszych namiętności i potrzeb człowieka, poczęło się z Kainem i Ablem; z narodzinami państwowości podniesione do cnoty płatnej, rozkwitło meandrami w państwach totalitarnych i stało się jedną z cnót obywatelskich. Powstały ministerstwa większe od tych, co miały dogadzać ludziom i gmachy większe od bibliotek narodowych w celu przechowywania donosów politycznych bliźnich. W naszym kraju, w którym dziedziczna hipokryzja zastąpiła prawdziwy katolicyzm, skłonność do uczciwości i łajdactw jest nie mniejsza niż pod innymi szerokościami geograficznymi, tyle że nienawiść w cenie większej niż woda święcona. Kiedy otworzona została puszka Pandory i poszły publiczne donosy okazało się, że wielu profesorów ma zaledwie matury, że były premier musiał udowadniać przed patriotami pierwszej klasy, że od czasu bitwy pod Grunwaldem nie jest od Żydów.*

*Gazeta Wyborcza, nr 19*

***

*Po miesiącu od postawienia premierowi Oleksemu zarzutu współpracy z moskiewskim wywiadem wzrosło poparcie dla SLD, którego Oleksy jest jednym z liderów. Gdyby wybory odbyły się dzisiaj, SLD zdobyłby większość w Sejmie i mógłby objąć rządy bez wchodzenia w układy z innymi partiami. Tracą poparcie ugrupowania, które atakowały premiera.*

*Kurier Poranny, nr 22*

Хто ведае, ці прэзідэнцкія выбары ў Польшчы не выйграў бы Аляксандр Лукашэнка, калі б паставіў тут сваю кандыдатуру. Пра яго пішуць таксама дрэнна як і пра Алексага.

***

*Bolszewicy na mszy w pierwszych rzędach siedzą,*
*Całują sutannę i opłatki jedzą.*
*A ksiądz ich przytula i garnie do siebie,*
*SB-ków, kapusiów, co chcą miejsca w niebie.*

— спявае свой новы гіт Павел Кукіз з калектывам „Персі".

*Gazeta Wyborcza, nr 20*

***

*Drugiego semestru maturzyści w województwie białostockim praktycznie nie będą mieli. Ferie zimowe w końcu lutego, trzy dni rekolekcji, potem Święta Wielkanocne, a 26 kwietnia już koniec zajęć.*

*Kurier Poranny, nr 20*

Пра тры свабодныя дні „Кур'ер" забыўся, таму прыпамінаем: 8 сакавіка — Міжнародны жаночы дзень, 21 сакавіка — Дзень „вагаровіча", 1 красавіка — таксама нейкае смешнае свята. Жадаем прыемнага адпачынку!

***

*Nasi nauczyciele są sztywni. Brak im otwarcia na nasze problemy, nie chcą się z nami zaprzyjaźnić, nie postrzegają nas jako ludzi, a jak przedmioty,* — паінфармавалі прэсу вучні беластоцкіх ліцэяў.

*Gazeta w Białymstoku, nr 21*

***

*Wyznawcami prawosławia na Białostocczyźnie są nie tylko Białorusini. Są nimi także Ukraińcy i etniczni Polacy. Przywłaszczanie sobie religii prawosławnej przez Białorusinów jest głęboko niesłuszne,* — піша неакрэсленай нацыянальнасці чытач штодзённікі

*Gazeta w Białymstoku, nr 23*

***

## З МІНУЛАГА ТЫДНЯ

**Польска-расейскі круглы стол** адбыўся ў Варшаве. Двухдзённыя перагаворы палітыкаў і экспертаў не давялі да прыбліжэння пазіцый абодвух бакоў у справе пашырэння НАТО. „Расея будзе змагацца, каб да гэтага не дайшло і выйграе, бо заходнія палітычныя эліты падтрымоўваюць яе", — заявіў кіраўнік расейскай дэлегацыі **Сяргей Караганаў**. „Пазіцыя Польшчы ў справе ўдзельніцтва ў НАТО не зменіцца", — сказаў старшыня сеймавай камісіі замежных спраў **Браніслаў Герэмэк** і дадаў, што гэтая пазіцыя не супярэчыць інтарэсам Расеі, якая павінна заўважаць, што Польшча, калі стане членам НАТО, будзе зацікаўлена добрымі адносінамі Паўночнаатлантычнага пакта з Расеяй.

**Міністр замежных спраў Дар'юш Расаці** накіраваў **Сусветнаму яўрэйскаму кангрэсу** пісьмо са словамі прабачэння за пагром, учынены ў Кельцах у 1946 г., падчас якога загінулі 42 яўрэі, а 50 было параненых. Пасля пагрому 100 тысяч яўрэяў пакінула Польшчу. У лісце міністр прыгадаў, што ў гэтым годзе мінае 50 гадавіна гэтага жудаснага здарэння.

**Міністр нацыянальнай абароны Станіслаў Дабжанскі** пабываў з візітам у Беластоку, дзе знаёміўся з ходам абучэння і ўмовамі службы 18 Мотастралковай брыгады. Госць сустрэўся таксама з архіепіскапам Беластоцкім і Гданьскім **Савам** — праваслаўным ардынарыем Войска Польскага.

Пасля чарговага адміністрацыйнага разбору справы **Супрасльскага манастыра** ва Управе Рады Міністраў віцэдырэктар Дэпартамента веравызнанняў УРМ **Багуслаў Скрэнта** заявіў, што сабраны доказны матэрыял будзе прааналізаваны і пад канец лютага будзе аб'яўлена рашэнне УРМ у гэтай справе.

Наглядальная рада Акцыянернага таварыства „Telewizja Polska" дала дабро на стварэнне **рэгіянальнага тэлецэнтра ў Беластоку**. Гэтую ініцыятыву падтрымоўвае таксама Міністэрства фінансаў. Канчатковае рашэнне аб стварэнні дванаццатага тэлевізійнага цэнтра ў краіне залежыць цяпер толькі ад агульнага сходу акцыянераў TVP.

**Прамыслова-гандлёвая палата ў Беластоку** арганізуе для беластоцкіх прадпрымальнікаў шэраг мерапрыемстваў па наладжванню дзелавых кантактаў. Пад канец сакавіка плануецца выезд у **Менск і Ліду** з мэтай завязання эканамічнага супрацоўніцтва з беларускімі прадпрымальнікамі і папулярызацыі прадпрыемстваў Беласточчыны.

**Радныя Гарадской рады Беластока** адкінулі ініцыятыву перадаць палову свайго месячнага дэпутацкага ганарару на карысць польскай школы ў Гродне. Такі запіс прапанаваўся ў праекце заклiку, накіраванага таксама да ўстаноў, прадпрыемстваў і жыхароў горада. З ліку прысутных на пасяджэнні 36 радных ініцыятыву падтрымала толькі 15 членаў Гарадской рады. Падчас галасавання выявіліся, што супраць ініцыятывы выказаліся радныя правай кааліцыі „Еднасць".

З пачаткам лютага пачалася **ліквідацыя філіяла прадпрыемства „Polpled" у Міхалове**, у якім працавала больш за 200 чалавек. Ад пачатку года страціла работу ўжо каля 100 асоб, а чарговых звальненняў чакаюць астатнія супрацоўнікі. 40% заводскага калектыву, баючыся страціць заробак, прабывае на лекарскіх бюлетэнях. Прычына ліквідацыі — новая інвестыцыя ў Беластоку. Нямецкія ўладальнікі завода вырашылі пабудаваць новы прадзільны цэх і адмовіліся падтрымоўваць іншагародні філіял. Да канца лютага прадпрыемства ў Міхалове будзе закрыта.

### ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У "НІВЕ"

> Рэпартаж Аляксандра Максімюка з Сямятыч.

> 400-годдзе Брэсцкай уніі — размова з Антонам Міранавічам.

> Гісторыя аднаго злачынства — рэпартаж Ганны Кандрацюк.



## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### СЕ — добрая справа

Пасля вяртання дэлегацыі Вярхоўнага Савета са Страсбурга, дзе завяршылася чарговае пасяджэнне парламенцкай асамблеі Савета Еўропы, Мячэслаў Грыб, які ўваходзіў у яе склад, сказаў, што беларускія парламентарыі пачалі вельмі добрую справу, сустрэўшыся з кіраўніцтвам Савета Еўропы. Па яго словах, ніякіх дадатковых умоў для прыняцця Беларусі ў СЕ кіраўніцтва арганізацыі не выставіла. Каб стаць членам буйнейшай міжнароднай арганізацыі, рэспубліка павінна ўкараніць у жыццё прынцыпы дэмакратыі, ажыццяўляць рэформы і захоўваць правы чалавека. Пры выкананні гэтых умоў СЕ гатовы разгледзець пытанне аб прыняцці Беларусі ў свой склад. На думку былога спікера, гэта адбудзецца не раней восені, хутчэй за ўсё ў лістападзе. Самой жа працэдуры ўступлення будзе папярэднічаць праца экспертаў СЕ ў Беларусі, а таксама пастаянная праца беларускіх прадстаўнікоў у Савеце Еўропы.

### Яднанне сацыял-дэмакратаў

У Менску адбылося пасяджэнне савета Партыі народнай згоды. На ім абмеркавана пытанне аб аб'яднанні партый-удзельніц Сацыял-дэмакратычнага саюза ў адзіную партыю, а таксама прынята рашэнне аб стварэнні групы саветнікаў фракцыі СДС у парламенце, у якую запрасілі Георгія Таразевіча, Дзмітрыя Булахава, Мікалая Статкевіча і Аляксея Караля.

### Маладзёжны форум

У Менскім міжнародным адукацыйным цэнтры адбыўся І Беларускі маладзёжны форум „Дыялог дзеля будучыні". Мерапрыемства прайшло без удзелу Беларускага саюза моладзі і без падтрымкі дзяржаўных структур. 156 удзельнікаў форуму, а таксама прадстаўнікі Еўрапейскага саюза маладзёжных арганізацый на працягу трох дзён абмяркоўвалі сацыяльныя і эканамічныя праблемы моладзі, таму што рост маладзёжнага беспрацоўя, злачыннасць, неабароненасць маладога чалавека і маладой сям'і на дзяржаўным узроўні амаль не вырашаюцца. Здзіўленне наконт пасіўнасці ўладаў у адносінах да маладзёжных праблемаў выказалі арганізатары форуму на прэс-канферэнцыі. З запрошаных больш чым 20 прадстаўнікоў дзяржаўнага апарату ў форуме прысутнічалі толькі трое. У той жа час было падкрэслена, што актыўнасць маладзёжных арганізацый, зацікаўленых у выпрацоўцы маладзёжнай палітыкі дае права сцвярджаць, што такія мерапрыемствы з'яўляюцца своеасаблівым эпіцэнтрам асэнсавання набалелых праблем. Другі такі форум адбудзецца восенню гэтага года.

### Супрацоўніцтва з Калінінградам

Кіраўнік адміністрацыі Калінінградскай вобласці Юрый Матачкін звярнуўся да прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі з лістом, у якім выкладзены прапановы па стварэнні доўгатэрміновай праграмы супрацоўніцтва паміж вобласцю і Рэспублікай Беларусь. Запрапанаваў ён кіраўніку дзяржавы сустрэцца для абмеркавання праектаў пагадненняў аб двухбаковым супрацоўніцтве ў галіне транспарту і камунікацыі, гандлёва-эканамічнай, энергетычнай, а таксама ў сферах сельскай гаспадаркі і харчавання да культуры. Кіраўніцтва Калінінградскай вобласці асабліва зацікаўлена ў супрацоўніцтве з горадам Гродна і прылягаючым рэгіёнам. Прэзідэнт Лукашэнка даў даручэнне цэнтральным органам кіравання, абласным і Менскаму выканаўчым камітэтам разгледзець іх і арганізаваць перагаворны працэс.

### Дыван-велікан

Блакітную залу пасяджэнняў штабкватэры СНД неўзабаве ўпрыгожыць вялікі дыван памерамі 200 квадратных метраў. Ён вытканы ў акцыянерным таварыстве „Дываны Брэста" па спецыяльнаму заказу. З-за вялікіх памераў выраб не змагло абсталяванне і работнікам прадпрыемства прыйшлося ткаць дыван па частках, а гатовыя кавалкі потым старанна злучаліся. Дарэчы, брэсцкія майстры не ўпершыню выконваюць такую работу. На іх творчым рахунку ёсць, напрыклад, пяць дываноў з вывявай патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Алексія ІІ.

### Горкі ўрок цукраварау

У аптымальныя тэрміны завяршыў сёлета сезон перапрацоўкі салодкіх каранёў Жабінкаўскі цукровы завод. Атрымана каля 40 тысяч тон цукру. Але ж упершыню за апошнія гады тут сутыкнуліся з праблемай яго продажу. Палова ўсёй прадукцыі яшчэ знаходзіцца на складах. На думку кіраўніцтва прадпрыемства, такая сітуацыя склалася з-за таго, што ў свой час урад адмяніў 25-працэнтную пошліну на імпартны цукар. Гэтае ж адразу выкарысталі ўкраінцы. Да ўвядзення новага 10-працэнтнага падатку яны змаглі ўвезці ў Беларусь больш танны прадукт. Зараз заводу з Жабінкі трэба прабівацца з часткай свайго тавару на рынкі Расеі.

# Балаган ці эканоміка?

Аб тым, што дзяржаўная чыгунка праходзіць эканамічны крызіс, гавараць яе чыноўнікі ды сродкі масавай інфармацыі. Наглядныя прыклады гэтага — скарачэнні штатаў, ліквідацыя нерэнтабельных ліній і абмежаванне колькасці паасобных цягнікоў. А ўсё гэта ў імя рыначнай эканомікі, як гэта афіцыйна падаецца чыгуначным кіраўніцтвам.

Мне, як былому чыгуначніку, інакш бачыцца гэтая эканоміка. Ды не толькі мне. У мінулым годзе інспектары Кантрольнай палаты (НІКу) выявілі многа негаспадарнасці і балагану ў кантраляваных імі ўстановах. Вось вам прыклад. Некалькі гадоў таму з Чаромхі быў прамы цягнік у Беласток у 6 гадзін 30 хвілін (у Беласток заходзіў у 8.45). Такое расписанне ўсім было выгадна, і школьнікам, і бацькам. Цэнтральная дырэкцыя, у сувязі з „эканамічнымі ашчаднасцямі" скараціла курсіраванне гэтага цягніка. Зараз ездзіць ён толькі ў Бельск-Падляшскі і толькі ў час навучальнага года.

Дзесяткі, сотні жыхароў Бельшчыны і Гайнаўшчыны вымушаны былі шукаць іншага транспарту, каб дабрацца ў Беласток. Хачу адзначыць, што гэты цягнік быў заўсёды запоўнены пасажырамі. Праз няпоўную гадзіну цягнік з Бельска вяртаецца амаль пусты. Як ужо некаторыя пасмейваюцца, гэтым цягнікам чыгуначнікі паветра возяць. І якая тут эканоміка?

Мясцовыя начальнікі Чаромхі, Гайнаўкі, Бельска-Падляшскага і Сямятыч выступалі ў Цэнтральную дырэкцыю ПКП у Варшаву, каб вярнуць курсіраванне гэтага цягніка па ранейшаму раскладу ў Беласток. Пісаў я два разы аб тым на старонках „Нівы". Без рэзультатаў!

Варшаўская Дырэкцыя не хацела аб тым і слухаць. Ці гэта не скандал?

Як мне сказалі чыгуначнікі ў Чаромсе, здаецца, што ў новым раскладзе будзе прадугледжаны прамы цягнік з Чаромхі ў Беласток у 6.30 раніцы. Што адмянілася ў чыгуначнай эканоміцы ў апошнім перыядзе? На маю думку, нічога асаблівага, апрача таго, што за некалькі гадоў чыгунка затраціла вялікую суму грошай з білетаў сваіх кліентаў, якіх сама адпіхнула.

**Уладзімір Сідарук**

# Тапаляны — вёска перспектыўная

Вёска Тапаляны ў Міхалоўскай гміне — даволі вялікая, больш за 200 чалавек. Пражываюць тут за 20 маладых гаспадароў. Значыць, сяло будзе існаваць ды ў хуткім часе не памрэ.

Каб, аднак, лепш жылося ў Тапалянах, патрэбны тэлефоны, вада з крана ды тратуар хаця б з аднаго боку доўгай вуліцы. А зямлю тут людзі будуць абрабляць, бо яна III і IV класаў.

Паколькі ў студнях значна абнізіўся ўзровень вады (уплыў на гэта мела меліярацыя лугоў і дрэнацыя палёў) ды дрэннай яна якасці, радны Уладзіслаў Кажусюк намераны заснаваць Камітэт пабудовы водаправода. Так як гэта зрабілі жыхары Новай Волі і Саколя, якія ваду чыстую як крышталь ужо маюць.

Зараз дзяцей з Тапалянаў ды Патокі і Тыльвіцы возяць у школу ў Міхалова. Малым дзеткам лепш было б вучыцца ў „сваёй" школе на месцы, у Тапалянах. Будынак стаіць добры, але пусты. У Тапаляны хапіла б, каб даязджаў або тут пасяліўся адзін настаўнік. Школы перанялі ад 1 студзеня гэтага года гмінныя ўлады. Можа возьмуць гэтую праблему сабе да сэрца. Для малалетак такая развязка была б вельмі карыснай.

Апошняя важная справа для жыхароў вёскі Тапаляны ды наваколля — гэта дарогі. Дрэнна па іх ездзіць, асабліва вясной і восенню. Найгоршы ж адрэзак з Патокі ў Гозьну. Міхалоўскім гмінным уладам неабходна больш увагі прысвяціць дапамозе жыхарам усё-ткі як бы не было перспектыўнай вёскі Тапаляны. Нельга забываць, што Міхалоўская гміна мае сельскагаспадарчы характар. Сельская гаспадарка, а не што іншае, гэта яе козыр. Ва ўладанні прыватных гаспадароў знаходзіцца 7 200 гектараў ворнай зямлі, 6 260 га лугоў і пашаў ды яшчэ 2 660 га лесу. Усіх прыватных гаспадарак амаль 2 тысячы.

**(яц)**

# НІЧОГА НЕ СТАЛАСЯ

У час тэлеперадачы „Беларускі выпуск", якая выйшла ў эфір 3 лютага, у кватэрах жыллёвага кааператыва „Podlasie" ў Бельску-Падляшскім, што пры вуліцы Белавежскай, раптам змоўклі тэлевізары. Замест відэасігналу на ўсіх праграмах ішоў „снег". Аварыя працягвалася нейкіх пятнаццаць хвілін, пасля чаго ўсё вярнулася ў норму.

У бюро кааператыва ў панядзелак 5 лютага сказалі, што выскачылі пробкі ў электрасетцы.

— Але ж нічога не здарылася. Перадач нельга было прымаць якіх дзесяць хвілін. Пробкі былі хутка адрамантаваны і можна было далей глядзець тэлевізар без ніякіх перашкод.

Гэта праўда, тэлевізар не псаваўся ўсю ноч. Больш сапраўды нічога не здарылася. Толькі што ўжо не паказвалі беларускай праграмы.

**М. В.**

# САБАКІ НАДАЛЕЙ ГУЛЯЮЦЬ ПА ВУЛІЦАХ!

У сакавіку 1979 года („Ніва" ад 18.03.1979 г.) друкавалася мая інфармацыя „Што з сабакамі?" Амаль сямнаццаць гадоў мінула, а праблема надалей засталася нявырашанай.

Каму паскардзішся, што цябе праводзяць брахлівыя чатырохногія палову дарогі ў вёсцы і чыгуначнай Чаромсе? Што азіраешся на ўсе бакі, каб дварняк не схапіў за калошыну. Аб дзецях і не гавары! Няма дня, каб едучы ў Чаромху на станцыю або Вішнёвай вуліцай да дачкі не сустрэць кучкі бяздомных сабак.

Ці сапраўды няма ў іх гаспадара? Мне здаецца, што справа маецца інакш. Многія трымаюць сабак, абы трымаць. Часам не дадуць ім з'есці. І таму жывёла выбіраецца „на паляванне".

Вось нядаўна купляў я каўбасу на рыначку ў Чаромсе. Зрабіўшы пакупку, павесіў пакет на веласіпедзе, а сам пачаў надзяваць рукавіцы. Калі глянуў на свой веласіпед, які стаяў побач крамы, убачыў, як нейкі дварняк дабіраецца да маёй каўбаскі.

Дзіўным здаецца быць тое, што нікому ў Чаромсе ці навакольных вёсках не перашкаджаюць бяздомныя сабакі. Ёсць жа кампетэнтныя органы мясцовага самаўрада ці паліцыі, ёсць жа ў Чаромсе гурток паляўнічых. Мо яны нешта ўрэшце прыдумаюць, каб вырашыць гэтую праблему і прымусіць уласнікаў трымаць сабак прывязанымі на панадворках. Бо можа калісьці так здарыцца, што бяздомны сабака некага пакусае, але тады ўжо будзе позна!

**(ус)**

# Лес

Спявалі аб Вісле, Волзе і Дунаі,  
Здаецца, усю прыгажосць апаялі.  
А я сабе тым часам заспяваю...  
Пра лес, што віднеецца ў далі.

Магутнаю сцяной стаіць вось бы дружына,  
Магутных рыцараў бязлікія атрады,  
Здаецца, вось-вось праз хвіліну  
Наскочыць гэта сіла без спагады.

Стаіць так ён бы зачараваны,  
Да сіняга сягае гарызонту,  
Дзе воблакі на небе маляваным  
Глядзяць за гэтым асаблівым фронтам.

Стаіць ды думае свае ён думкі,  
Успамінае дзесяткі пакаленняў.  
Напэўна ён вядзе свае рахункі,  
Мабыць, ад сусвету стварэння.

А ён усё стаіць спакойна, нерухома  
І думаецца: ён заснуў сном вечным.  
Можа сапраўды спіць, гэта магчыма,  
І толькі тады ён бяспечны.

Але цікавасць усё перамагае,  
Каб падысці, заглянуць у сярэдзіну...  
Адважна ўваходзіш, смела аглядаеш,  
Ды заміраеш на гадзіну.

І бачыш, ён жывы, у ім усё жывое.  
Вось дубы, тут бяроза, там асіна,  
Вечназялёныя высяцца хвоі,  
А там балота, а побач альшына...

А пад нагамі рознае багацце,  
Травы ды мох, папараць ды кветкі.  
Над галавою чырыкае птаства  
Вясёлае, быццам свавольныя дзеткі.

А вось грыбок, вось ягада, вось зайка  
Спалохана пабег цераз карчы маланкай.  
Загукала сава-ўсёзнайка  
А навокал камары спяваюць звонка.

Гэта ж падумаць, ужо ад стагоддзяў  
Лес абуваў, карміў, даваў апеку.  
Ён аграваў, калі холад наблізіўся.  
Ды гэтак ён заўсёды служыў чалавеку.

**„Улас"**

**Спачуванні**  
**спадару Васілю Сакоўскаму**  
**і яго сям'і**  
**з прычыны напаткаўшага Іх гора**  
**— смерці БАЦЬКІ**  
**выказваюць**  
**Праўленне Грамадскага камітэта пабудовы Беларускага музея і асяродка беларускай культуры ды Праўленне аддзела БГКТ у Гайнаўцы.**

# А бадай бы іх пакруціла!

У канцы студзеня вяртаўся я з Беластока дамоў. У цягніку завязаў гаворку са знаёмым кіраўніком цягніка, а той кажа: „Паміж Кляшчэлямі і Чаромхай укралі тэлефонныя правады. Быццам паўкіламетра..." Калі мінулі Кляшчэлі, непадалёк за станцыяй у напрамку Чаромхі, мы ўбачылі на слупах канцы тэлефонных правадоў. Чатыры былі абрэзаны, два засталіся.

Я бліжэй пацікавіўся справай. З чыгуначнай секцыі тэлефоннай службы ў Чаромсе знаёмыя манцёры сказалі, што была такая пакража. На прамежках паміж сямі слупамі зладзеі адрэзалі тэлефонныя правады на адлегласці трохсот пяцідзесяці метраў (чатыры правады, гэта значыцца даўжынёй 1400 метраў усяго). Вядома, зладзеям спатрэбіліся медзяныя правады на продаж.

— Ладны грош схапілі, — кажа адзін з манцёраў.

— Дык як жа прадаць такі тавар? — пытаю.

— Пераплаўліваюць у злітак, — дадае другі чыгуначнік.

— Раней здараліся такога роду пакражы?

— У Чаромсе першая, — адказвае манцёр Кшыштаф Жандарчук. — Два гады раней зладзеі спрабавалі ўкрасці тэлефонныя правады паміж Арэшкавам і Гайнаўкай. Не ўдалося. Мы падключылі тэхніку. Калі зладзеі паспрабавалі парэзаць першыя правады, нам было вядома, у якім месцы дзеецца злачынства. Пазванілі зразу ў гайнаўскую паліцыю. Зладзеям нават не ўдалося скруціць адрэзаныя правады, як паліцэйскія засяклі іх на месцы злачынства.

— Толькі карчы трашчалі пад нагамі ўцякаючых, — усміхаецца спадар Жандарчук і дабаўляе: — Каб толькі ўкралі! А то бывае, што правады так паскручваюць, што некалькі гадзін трэба разбірацца, каб тэлефонную лінію да парадку давесці. Бадай бы іх пакруціла, — канчае са злосцю мой сябрук.

Вось да чаго дажыліся!

Кралі зладзеі курэй з куранятамі, бычка ці авечку з сенажаці. Аўтамабіль са стаянкі. Зараз пайшла мода на тэлефонныя правады. Незадоўга паспрабуюць чалавеку жонку ўкрасці, або яго самога за ногі ноччу выцягнуць з хаты!

Сапраўдны дзікі захад! Як у Амерыцы! Толькі мы жывем у дэмакратыі. У праванай дзяржаве. У краіне суверэнай і незалежнай.

Дык чаму ж мы не паспрабуем вырваць з карэннямі ўсяго роду пустазелле з нашых палёў, а злодзеяў-паразітаў — з нашага грамадства.

**Уладзімір Сідарук**

# У самай маладой вёсцы

Узнікла яна ў 1982 годзе ў Нараўчанскай гміне, непадалёк Семяноўскага вадасховішча. Новая Лука...

У сувязі з пабудовай штучнага возера з паверхні семяноўскай акругі зніклі пяць вёсак, у тым ліку вялікая вёска Лука, распалажаная над ракой Нарвай. Не ўсе ранейшыя жыхары затопленых вёсак павыязджалі. Некаторыя лучане сталі дамагацца праекту на закладзіны новай вёскі паблізу „вялікай вады". Прыйшлося ім чакаць чатыры гады. Былі гэта: Мікалай Стоцкі (першы солтыс у гэтай вёсцы), Ян Байчук, Сяргей Каральчук, Канстанцін Самоцік ды Валянціна, Фёдар і Уладзімір Харкевічы.

— Зараз у Новай Луцэ дзевяць тыповых сялянскіх сядзібаў і ажно каля 100 курортных домікаў. Тут адна вуліца — гравейка і шмат перасякаючых яе так званых грунтовых, найчасцей пясчаных дарожак. Домікі пабудавалі сабе блізка вадасховішча жыхары Беластока, Варшавы і нават Сілезіі. Гэта перш за ўсё лекары і паліцыянты, — паінфармаваў малады солтыс Яраслаў Стоцкі, які абавязкі галавы вёскі выконвае ў Новай Луцэ ўжо другую кадэнцыю.

— Мясцовыя сяляне гадуюць першнаперш малочных кароў. Маем удоваль зялёных угоддзяў, між іншым на тарфяніках у ваколіцы вёскі Церамкі. Малако возяць у бліжэйшую зленую ў Тарнопалі, — распавядаў солтыс. — У новапабудаванай вёсцы маем электрычнае святло і ваду з крана. Улетку будзе адкрыта прыватная спажывецкая крама. У плане пабудова калектараў, якімі паплылі б сцёкі з Тарнопала і Новай Лукі да існуючай ужо ачышчальні ў Багнюках. Некаторыя жыхары самай маладой у гміне, а, мабыць, і ў Беластоцкім ваяводстве, вёскі ў бліжэйшы час запланавалі купіць сабе навінку, якая сюд-туд прыжываецца — спадарожнікавыя антэны.

Сям'я Стоцкіх у Новай Луцэ — людзі працавітыя, добрыя гаспадары. Гадуюць лепшай пароды кароў, забяспечваюць іх лепшымі кармамі. Малачарскаму заводу ў Гайнаўцы прадаюць яны штогод 40 тысяч літраў малака ў еўрапейскім класе. Кожны дзень на іх панадворак прыязджае аўтацыстэрна гайнаўскай ОСМ. Яраслаў Стоцкі закончыў у 1990 годзе Галоў-ную школу сельскай гаспадаркі ў Варшаве і здабыў прафесію лясніччага. Працуе ў Лясніцтве Крыніца (Надлясніцтва Броўск) у Нараўчанскай гміне. Ён не захацеў ехаць у горад. Яму і на вёсцы добра. Ёсць у яго жонка, дзеці. Жыве ў адным з самых прыгожых дамоў у вёсцы.

**Янка Целушэцкі**

# ПАДЗЕННЕ МІФАЛОГІІ УСХОДУ

*Працяг са стар. 1*

тое, што для веравызнання малаважнае — характар яго культурнага акружэння, каб ліквідаваць апошнюю перашкоду, паўстрымоўваючую маланкавае пашырэнне асіміляцыйнага працэсаў.

*— Ці сённяшняе захапленне праваслаўнай грамадскасці перыядам „народнай улады" а асабліва „эпохай Герка" не вынікае з факту, што былі тады асабліва спрыяльныя ўмовы для таго, каб беспраблемна пераўтварыцца ў частку „адзінага сацыялістычнага польскага грамадства"?*

— Безумоўна так. Тая адмоўная рыса палітыкі Герка, якая была накіравана на асіміляцыю ўсіх меншасцей, у выпадку беларусаў успрымалася вельмі станоўча. Была нагода стаць палякамі, ніхто не заклікаў да беларускасці. Можна было жыць як кожны грамадзянін, без пачуцця горшасці. Былі таксама спрыяльныя ўмовы для польскай гаспадаркі і апошняя нагода для грамадскага павышэння. Шмат людзей выкарыстала той час, каб адмяніць сваё жыццё на лепшае. Разам з адыходам Герка канчалася эпоха грамадска-палітычных пераўтварэнняў, звязаных з сацыялізмам, дарэчы, вельмі спрыяльных з сацыяльнага пункту гледжання беларускай меншасці ў Польшчы. Нягледзячы на палітычныя падзеі, тая эканамічная эпоха проста скончылася. Беларусы аднак успрынялі гэта як паслядоўнасць палітычных здарэнняў 80-х гадоў. Так ці інакш быў гэта канец спрыяльнай кан'юнктуры для праваслаўных.

*— Ці сучасная фрустрацыя беларускай праваслаўнай грамадскасці не з'яўляецца вынікам новага вызначэння польскасці, дзе каталіцызм займае цэнтральнае месца?*

— Няма сумнення, што каталіцызм быў і ёсць важнай прыкметай у вызначэнні польскасці і шмат гадоў быў фактарам кансервуючым гэту нацыянальнасць. Але разам з дэмакратызацыяй грамадскага жыцця гэта будзе мяняцца. У дэмакратычным грамадстве аб прыналежнасці да такой ці іншай культуры чалавек вырашае сам, згодна са сваім выбарам, а не таму, што нарадзіўся ў такім ці іншым асяроддзі.

Польскасць у дэмакратычным варыянце напэўна стане больш прывабнай для беларусаў і не будзе прымушаць іх выракацца свае традыцыі. Варшаўская ці кракаўская ёсць больш прывабная, чым вызначаная лакальнай грамадскасцю, таму што не адкідае хаця б праваслаўя як нечага чужога.

*— Ці ўзнікненне беларускай дзяржаўнасці паўплывала ў нейкі спосаб на развіццё нацыянальных працэсаў сярод праваслаўных жыхароў Беласточчыны?*

— Так, але адмоўна для справы беларускасці на Беласточчыне. Палітычныя працэсы, якія прайшлі ў Беларусі, паспрыялі толькі замацаванню пераканання, што беластоцкія беларусы гэта іншыя беларусы, а больш дакладна — „польскія беларусы". Яшчэ раз паўтару тое, што ўжо сказаў: амаль ніхто з маіх рэспандэнтаў не акрэсліў Беларусі як свае ідэалагічнае айчыны. Маю тут на ўвазе тых, якія рашуча сваю нацыянальнасць акрэслілі як беларускую.

Для беластоцкіх беларусаў Беларусь гэта суседняя краіна, яе жыхары гэта зусім іншыя людзі, якія „да нас" прыязджаюць, гандлююць, але выступаюць як „яны", на дадатак „рускія", а не як „мы — беларусы". Дарэчы, успрымаюцца яны як і іншыя, якія прыязджаюць з тэрыторыі былога Савецкага Саюза — як расійцы, армяне, літоўцы.

*— Дзякую за размову.*

**Гутарыў Яўген Міранові ч**

# Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква ў справе Супраслі

28 верасня 1995 г. напярэдадні візіту Яна Паўла II ў ЗША, першаіерарх БАПЦ Ізяслаў накіраваў ліст у Белы Дом прэзідэнту ЗША Білу Клінтану.

На працягу будучага візіту, гаворыцца ў лісце, Яго Святасць Ян Павел II несумненна будзе апеляваць да братэрскае любові паміж хрысціянамі і экуменічнага збліжэння Цэркваў. Сітуацыя, калі падобныя высакародныя заклікі Свяцейшага Айца чуюцца і ўспрымаюцца ў Амерыцы ды ва ўсім свеце, ды толькі ў роднай яму Польшчы ды ў польскім Рымска-каталіцкім касцёле натыкаюцца на глухія вушы, у лісце называецца трагічнай. Нягледзячы на ідэі талерантнасці і экуменізму ў дактрыне каталіцызму, Касцёл у Польшчы яшчэ культывуе дух сярэдневяковае неталерантнасці і канкістадорскі апетыт польскага ўльтранацыяналізму.

Ахвярамі гэтай нянавісці, далей пішацца ў лісце, ёсць у тым ліку названыя Янам Паўлам II як брацкія ўсходне-праваслаўныя хрысціяне — беларуская этнічная меншасць у паўночна-ўсходняй Польшчы.

У лісце згадваюцца трагічныя этапы гісторыі жыцця беларусаў на Беласточчыне ды прымянення да іх розных форм дыскрымінацыі. Рымска-каталіцкі касцёл, паведамляецца далей, ніколі не бараніў і не выказваў спачування пакутам невінаватых праваслаўных хрысціянаў, але і сам прычыняўся да іх рознымі акцыямі. У лісце паведамляецца пра практыку адбірання храмаў, прымусовае рэпатрыяцыі беларускага насельніцтва Беласточчыны ў СССР ды гэтаму падобныя метады фізічнага і духовага тэрору. Праз гады польскае акупацыі Беласточчыны ўжываецца ціск на беларускую нацыянальную свядомасць і праваслаўнае веравызнанне шляхам дыскрымінацыі на працы, у атрыманні адукацыі на роднай мове, недапушчэння беларускае мовы ў публічнае жыццё, мізэрнага падтрымання нацыянальнага культурнага працэсу і г.п.

Першаіерарх БАПЦ піша, што іерархія і клер Рымска-каталіцкага касцёла ў Польшчы працягваюць практыку этнічнае чысткі, калі заяўляюць, што нібы праваслаўныя беларусы былі заселеныя на тэрыторыю Беласточчыны расейскім царызмам ды, значыць, ёсць тут чужародным целам, якога можна і пазбавіцца. Ведаючы пра ўплыў думкі Рымска-каталіцкага касцёла на польскую палітыку і наогул на грамадскае жыццё ў Польшчы, можна меркаваць, што варожасць да праваслаўных беларусаў нядоўгі час можа застацца бяздзейнай.

Далей у лісце гаворыцца пра лёс найсвятога месца Праваслаўя ў Беластоцкім рэгіёне — Супрасльскага манастыра, які, хоць і быў аб'ектам прэтэнзій Каталіцкага касцёла, але стагоддзямі заставаўся праваслаўнай святыняй. Колькі год таму манастыр, здавалася, канчаткова быў вернуты польскім урадам Праваслаўнай царкве, але цяпер ізноў паўстала пагроза перадачы яго Каталіцкаму касцёлу.

Напрыканцы ліста мітрапаліт Ізяслаў выказаў спадзяванне, што пададзеныя факты роспачных умоваў жыцця беларускай праваслаўнай меншасці ў Беластоцкім рэгіёне сучаснай Польшчы будуць прынятыя пад увагу ў кантэксце міжнародных справаў ды прасіў спрыяння праваслаўным беларусам Польшчы перад Яго Святасцю Янам Паўлам II, польскім урадам ды амерыканскай публічнай думкай.

Атрыманы неўзабаве ад Дзяржаўнага дэпартаменту ЗША адказ у сваю чаргу інфармаваў пра прыняцце пад увагу выказаных БАПЦ праблемаў ды працяг кантактаў паміж урадамі ЗША і Польшчы ў справе аховы правоў меншасцей, да чаго Польшча мае міжнародныя забавязанні.

**Інф. ЦП**

# Ліст у рэдакцыю

У „Ніве" н-р 4 ад 28.01.1996 г. быў змешчаны артыкул азагалоўлены „Ліст у рэдакцыю". Невядомы аўтар апісвае дзейнасць Арміі Краёвай на беларускай зямлі. Добра вядома ўсім, што два найбольшыя злачынцы XX стагоддзя Сталін і Гітлер паслалі на смерць мільёны невінаватых людзей. Але яны ўжо маральна асуджаны. Таксама ўсе фарміраванні і партыі, якія служылі гэтым злачынцам, дачакаліся адпаведнай ацэнкі. Пасля вайны на Беласточчыне ў выніку дзейнасці польскага нацыянальнага падполля былі пацыфікаваны беларускія вёскі Залешаны, Зані, Шпакі, Вулька-Выганоўская. Загінулі там дзеці і жанчыны. У Пухалах-Старых гэтыя злачынцы замардавалі беларускіх вазакоў, якіх узялі ў палон у ваколіцы Гайнаўкі. Сотні невінаватых людзей былі пастраляны на тэрыторыі ўсёй Беласточчыны. А колькі ёсць такіх людзей, якія да сённяшняга дня шукаюць магіл сваіх блізкіх?

Пытаюся, ці калі-небудзь адбудзецца прынамсі нейкі маральны суд над злачынцамі, якія ў 1946 годзе пацыфікавалі беларускія вёскі, ці, як дагэтуль, прысвойваць ім будуць медалі за „патрыятычную" дзейнасць і даваць дадатак да пенсіі? Гэта ж здзек над ахвярамі.

*(імя, прозвішча і адрас да ведама рэдакцыі)*

# На хвалях жыцця

*(заканчэнне; пачатак у 41 н-ры за 1995 г.)*

## Эпілог

Канчаючы пісаць свае ўспаміны хачу падкрэсліць, што няма ў іх нічога, з чым сам я не сустрэўся, чаго не перажыў, няма ніводнага прыдуманага, непраўдзівага факта. Я апісаў толькі малую частку свайго жыцця. Такі або падобны лёс выпаў на долю многіх прадстаўнікоў майго пакалення. Адных, з якімі я праводзіў маладосць, ваенныя падзеі і іх паслядоўнасці разагналі па ўсім свеце, другія ў сваіх жыццёвых перыпетыях патрацілі здароўе, сталі калекамі, а па трэціх асталіся толькі ўспаміны... Такая, відаць, доля нашых людзей.

Толькі за маё жыццё ўлада на нашай зямлі мянялася адзінаццаць разоў. Быў час, што край пераходзіў з рук у рукі. Чужынцы прыходзілі, забіралі не раз тое, што ім спатрэбілася, і адыходзілі. Як жыве мясцовы народ іх не абходзіла. Пасля І сусветнай вайны, пасля многіх зменаў, у рэшце рэшт правіць пачалі ў нас палякі. Край быў спустошаны вайной. Сялянская зямля знаходзілася ў цераспалосіцы, а пасобныя ўчасткі адной гаспадаркі нярэдка былі раскінуты па некалькі кіламетраў адна ад адной. Не было ўмоў для нейкага рацыянальнага гаспадарання. Многія сяляне душыліся на гаспадарках велічынёю ў два з паловай гектара, калі побач цягнуліся вялікія прасторы маёнткавай зямлі, часта запушчанай, здзірванелай, бо знішчаныя вайной маёнткі не былі ў змозе ўсё абрабіць. Царавалі бедната і цемната. На ўсю вялікую Тургельскую воласць была толькі адна сямігадовая школа, і да таго ад 1930 года, у саміх Тургелях.

Ва ўсёй маёй вёсцы на двадцаць гаспадарак не было ніводнай сельскагаспадарчай машыны. Людзі працавалі цэлае лета ад усходу да захаду сонца. Тое, што летам выаралі плугам, касой і сярпом зжалі, тое цэлую зіму пры газавых лямпах цэпам малацілі, ручнымі веялкамі чысцілі, на калаўротах пралі і на самаробных кроснах ткалі. Забітыя працай сяляне, без адпаведнай медыцынскай апекі, без пары ішлі на той свет.

У Вільні і іншых гарадах былі тысячы беспрацоўных. Новыя фабрыкі будавалі ў Варшаве, Кракаве, Катавіцах, а ў нас спынілі дзейнасць тыя заводы, якія да вайны працавалі поўным ходам, напрыклад гарбарні Суравіча ў Вільні.

У адказ на такія парадкі ў падвіленскіх вёсках каля 1930 года, як ніколі раней, пачаў пашырацца нацыянальны і сацыяльны рух. Разумнейшыя і больш актыўныя сяляне разумелі, што ніхто не прынясе ім лепшага жыцця, што кожны, хто прыходзіць, стараецца як найбольш узяць, а не даць, што сваё жыццё на сваёй зямлі палепшыць могуць толькі яны самі. У Медніках, Кяйпунах, Гірдзеўцах, Юшках, Мураванай Ашмянцы ўзніклі мясцовыя беларускія гурткі. Працавалі ў іх самі сяляне. Збіраліся яны, абмяркоўвалі свае справы, за апошнія грошы выпісвалі газеты, куплялі кніжкі і вучылі іншых. Памагчы ім, направіць на адпаведны шлях не было каму, бо сваёй інтэлігенцыі не было. Прысланыя сюды ксяндзы, паліцыя і іншыя „ужэнднікі" скоса глядзелі на пашырэнне мясцовага руху і настаўлялі супраць яго сваіх падхалімаў і цемнату.

У такіх вось умовах падрастаў я і пазнаваў свет. Каб вырвацца з такога становішча, трэба было вучыцца, але з гэтым не было лёгка. За навуку трэба было плаціць ажно 220 злотаў у год. У той час карова каштавала ўсяго сто злотаў. Колькі ж кароў у год маглі прадаць мае бацькі з пяцігектарнай гаспадаркі? Па такіх менавіта прычынах з усёй нашай вялікай воласці ў сярэдніх школах вучылася толькі некалькі чалавек. Мне дапамаглі ксяндзы-манахі Марыяне з Друі. Мелі яны сваю гімназію, у якую прынялі і мяне. Выехаў я ў Друю, калі мне было трынаццаць гадоў. Два гады не прыязджаў дахаты. Летам і ў час канікулаў працаваў я там. Калі быў я ў шостым класе гімназіі, захварэў бацька. Трэба было вярнуцца на гаспадарку. У хаце вучыўся я сам, без ніякай дапамогі, пры газавай лямпе. Вясной здаў я экзамены ў сёмы клас гімназіі ў Вільні, але разам з тым трэба было купіць і акуляры.

Вясной 1935 года, калі быў я яшчэ ў сёмым класе гімназіі, памёр мой бацька. Увесь свой век ён цяжка працаваў і нічога добрага не бачыў. Мае летуценні вывучыцца, пачаць зарабляць і дапамагчы бацькам у іх цяжкім жыцці, летуценнямі і засталіся. Не дачакаліся яны ад мяне нічога, а і мяне самога лёс кінуў на ўзбураныя жыццёвыя хвалі, у якіх то тануў, то плаваў.

Хацелася бачыць свет добрым, без праследу адных людзей другімі, каб, не знішчаючы нікога і нічога, падцягнуць нізы ўверх, каб усе былі роўныя, каб усім лепш жылося, але сам бачыў, як свет ішоў іншай дарогай.

Ва універсітэце матэрыяльна было мне лягчэй. Крыху падзарабляў у рэдакцыях газет, напалову знізілі мне аплату за навуку, а пазней, нягледзячы на перашкоды з боку майго Віленска-Троцкага стараства, прызначылі стыпендыю.

Аднак заўважаў я, як у свеце ўзгадоўвалася нянавісць адных людзей да другіх, як узрастаў дзікі нацыяналізм, як над нашым народам зацісkаліся клешчы нацыянальнага прыгнёту і няроўнасці. На маіх вачах банды прыгожа апранутай і добра адкормленай студэнцкай моладзі збівалі да непрытомнасці на універсітэцкіх аўдыторыях сваіх яўрэйскіх калег толькі таму, што былі яны іншай нацыянальнасці. Віноўнікаў такіх крымінальных учынкаў не толькі не прыцягвалі да судовай адказнасці, але лічыліся яны героямі. Адміністрацыйныя ўлады закрывалі апошнія беларускія газеты і арганізацыі, высылялі са свайго краю ў Польшчу беларускіх актывістаў.

У свеце тапталася чалавечая годнасць. Чалавек чалавеку станавіўся ваўком, а не братам. Рэзультатам такога выраджэння чалавецтва стала II сусветная вайна, якая паглынула мільёны ахвяр, прынесла безліч крыўдаў і цярпенняў.

*Закончана 12 кастрычніка 1972 г. у Біскупцы.*

**Віктар Ярмалковіч**

# Я проста ўрос у гэтую культуру

**Размова з СЛАВАМІРАМ ГАЛІЦКІМ — упаўнаважаным ваяводы па справах нацыянальных і этнічных меншасцей**

*— Назначэнне Вас упаўнаважаным ваяводы па справах нацыянальных і этнічных меншасцей было свайго роду неспадзяванасцю. Чаму, на Вашу думку, ваявода выбраў якраз Вашу асобу?*

— Відаць таму, што сярод кандыдатаў я з'яўляюся асобай бесстаронняй, не звязанай з ніякай меншасцю. Цяжка гаварыць аб нейкіх маіх спецыяльных здольнасцях да гэтага роду функцыі, бо справа таксама ў чалавечай натуры. Справы меншасцей гэта справы міжлюдскія, не гаспадарчыя, і намнога цяжэйшыя. Яны патрабуюць дыпламатыі, асцярожнасці, вялікай разважлівасці, прымання рашэнняў.

Вельмі добра ведаю нашу тэрыторыю. Тут я нарадзіўся і выхаваўся. Я проста ўрос у гэтую культуру, гэтых людзей. Маю прыроджаныя адносіны да іншых нацыянальнасцей, культур, рэлігій, якія безумоўна характарызуюць талерантнасць, якую прышчапілі мне бацькі.

Я лічу сябе рэгіяналістам, значыць чалавекам, які добра ведае рэчаіснасць нашага рэгіёна. Дагэтуль я стараўся паказаць гэта пры дапамозе краязнаўчых публікацый, прысвечаных прыродзе і культуры гэтага рэгіёна.

*— Ці сярод Вашых публікацый ёсць таксама прысвечаныя беларускай меншасці?*

— Прэса падкрэслівала, што гэтыя публікацыі тычацца якраз меншасцей. Адразу выпраўлю, што яны датычаць краязнаўства ў агульным сэнсе, у якім культурная, а тым больш меншасная праблема была толькі адным з элементаў, ды не самым галоўным. Я стараюся таксама на краязнаўчых картах нашага рэгіёна паказваць нацыянальную і рэлігійную разнастайнасць у форме помнікаў, фальклорных ансамбляў, цэркваў і сінагогаў. На маю думку, задачай географа ёсць стварэнне картаграфічнага вобраза і гэта маю ўжо за сабою. Думаю, што ў будучыні таксама буду глядзець геаграфічным рэгіянальным спосабам на гэтыя справы.

*— Вы сказалі аб тым, што змалку знаёмы са справамі меншасцей. Дзе Вы нарадзіліся?*

— У Дабраводзе.

*— Ці ўмееце гаварыць „па-свойму"?*

— Вы пэўна думаеце пра Дабрываду, што пад Кляшчэлямі. Я нарадзіўся ў Дабраводзе, што ў гміне Турасьнь-Касцельная, недалёка ад Беластока.

*— Але гэта таксама тэрыторыя моўнага сумежжа?*

— Маё прозвішча можа паказваць, што мае продкі паходзілі з Галіцкай Русі, але бацька мой з Угова пад Лапамі, а маці з Кнышына, дык з тэрыторыі хутчэй за ўсё мазавецкага асадніцтва. Тым не менш ёсць там беларускія вёскі, якія калісь належалі да забеспячэння Супрасльскага манастыра, як Бацюты, Тапілец. У Тапільцы ёсць праваслаўная царква. Беларуская меншасць там сапраўды меншасць, але, вядома, на вёсцы, едучы ў школу, я сустракаўся з беларускай мовай. Яна мне не чужая, добра яе разумею, але не ўмею на ёй пісаць. Тым не менш, жадаю яе вывучыць, таксама ўкраінскую.

*— Дзе Вы здабылі адукацыю?*

— Амаль трэць жыцця я правёў у Варшаве, на магістэрскіх і доктарскіх студыях, але заўжды ў кантакце з рэгіёнам, з Беласточчынай. Гэтая туга па роднай старонцы праяўлялася перш за ўсё у публікацыях. Я аўтар некалькіх дзесяткаў артыкулаў, галоўным чынам на краязнаўчыя тэмы Беласточчыны і двух турыстычных карт. Закончыў я геаграфію ў Варшаўскім універсітэце. Канкрэтна, Факультэт геграфіі рэгіянальных студыяў. Падкрэсліваю, што ідзе пра рэгіянальныя студыі. Таксама кандыдацкая дысертацыя, над якой працую, прысвечаная развіццю турыстыкі ў Беластоцкім рэгіёне. „Gazeta Wyborcza" змясціла артыкул пад такім калючым загалоўкам: „Geograf do łagodzenia napięć". Быццам бы географ не меў да гэтага здольнасцей.

*— А дзе Вы працавалі пасля вяртання на Беласточчыну?*

— У палове 80-х пачаў я працу ў Цэнтры навуковых даследаванняў пры Ваяводскай управе. Паколькі мая магістэрская праца пра арганізацыю Кнышынскай пушчы стала часткай дакументацыі, якая вырашыла аб стварэнні запаведніка, натуральным чынам перайшоў я на працу ў праўленне запаведніка Кнышынскай пушчы ў Супраслі. Праўленне мела тады сваю сядзібу ў будынках Супрасльскага манастыра. Пасля я быў на дактаранцкіх студыях, а затым працаваў у Гарадской управе ў Харошчы інспектарам асветы, культуры, спорту і турызму. Пазней я трапіў у школу, дзе працаваў толькі пяць месяцаў. Тым часам прэса экспанавала якраз гэтую апошнюю прафесію.

Цешуся, што я быў заўважаны ваяводам і мог прыняць удзел у конкурсе. Не скрываю, што і для мяне вялікай неспадзяванасцю быў выбар на ўпаўнаважанага.

*— Якія Вашы заданні як упаўнаважанага?*

— Мне было прыемна, што рэгіянальная прэса прадставіла мяне як упаўнаважанага па нацыянальных меншасцях, але я перш за ўсё з'яўляюся ўраднікам, які прадстаўляе ваяводу. Мае абавязкі наступныя: утрымоўванне сталых кантактаў з усімі арганізацыямі нацыянальных меншасцей на Беласточчыне, апрацоўванне аналізаў і ацэнак становішча нацыянальных меншасцей, выказванне поглядаў наконт юрыдычных актаў датычных нацыянальных меншасцей, супрацоўніцтва з парламентарыямі Беластоцкай зямлі, падтрымоўванне лакальных ініцыятыў нацыянальных і этнічных меншасцей у галіне іх асветы і культуры, папулярызацыя праблем меншасцей і прадстаўлянне грамадству ваяводства ўкладу меншасцей у развіццё рэгіёна, садзейнічанне з установамі, якія займаюцца праблематыкай меншасцей. Безумоўна, не пазбегну інтэрвенцыйных і медыяцыйных дзеянняў у выпадку рознага роду дыскрымінацыі меншасцей або канфліктаў у рамках меншасцей. Не хаваймa, што і такія выступаюць.

*— Праблемы меншасцей у нашым ваяводстве часта звязаны з рэлігійнымі пытаннямі. Беларуская праблематыка цесна звязана з праваслаўнай, а татарская з мусульманскай. Ці будзеце мець дачыненне да спраў паасобных веравызнанняў?*

— Генеральна не буду займацца рэлігійнымі праблемамі. Хіба што рэлігійная ніць будзе звязана з культурай нацыянальных меншасцей.

*— Як будзе на практыцы арганізавана Ваша ўстанова?*

— Увойдзе яна ў склад арганізацыйнай адзінкі, якой з'яўляецца кабінет ваяводы. Кабінет будзе функцыянаваць як асобны аддзел, падпарадкаваны непасрэдна ваяводу. Сядзіба, дзе цяпер знаходзімся, гэта памяшканне часовае. За нейкі месяц памяняю пакой. Тады пастараюся нейкім чынам акцэнтаваць характар гэтага пакоя элементамі культуры і фальклору нацыянальных меншасцей.

*— Вы толькі што прынялі сваю пасаду. Тым не менш, Вы пэўна ж мелі раней нейкае ўяўленне пра свае дзеянні. Усё-такі шмат залежыць ад Вашай ініцыятывы.*

— Паколькі прэса прадставіла мяне як асобу малавядомую ў меншасным асяроддзі, перш за ўсё пастараюся наведаць усе грамадскія і культурныя арганізацыі нацыянальных меншасцей, беларускай і ўкраінскай, ды этнічных груп нашчадкаў татараў і ромаў. Хачу пазнаёміцца з іншымі праблемамі, прадставіць свае пазіцыі і пазіцыі ваяводы адносна маёй функцыі. Магчыма, пасля інфармацыі ў прэсе дойдуць да мяне новыя сігналы ад новых этнічных групаў ці меншасцей. Я не быў бы здзіўлены, калі б хтосьці яшчэ тут дзейнічаў і адазваўся.

**Гутарыў**
**Алег Латышонак**

# Выявіць сябе ў вершы



*Юстына ў Кракаве.*

Цяпер **Юстына Каролька** вучыцца ў сёмым класе Пачатковай школы н-р 3 у Бельску-Падляшскім. Два гады запар, у 1994 і 1995 заваёўвала яна ўзнагароды ў Агульнапольскіх конкурсах паэзіі для дзяцей. На літаратурнай старонцы „Белавежа" дэбютавала ў верасні мінулага года.

*— Юстына, калі ты пачала пісаць вершы?*

— Яшчэ пакуль пайшла ў першы клас. Хаця гэта не былі так зусім вершы, хутчэй кароткія формы, мініяцюры.

*— А калі першы раз быў надрукаваны твой верш?*

— Калі я хадзіла ў трэці клас, у „Зорцы".

*— Напісала ты яго па-беларуску?*

— Не, верш узнік па-польску, затым я яго пераклала на беларускую мову. У мяне заўсёды першапачатковая версія па-польску, а толькі потым перакладаю. Калі маю з гэтым клопаты, дапамагае мама.

*— Што прымушае цябе выказвацца ў паэзіі?*

— Прыходзіць натхненне. Пішу пра пачуцці, часамі аб прыродзе. Пішу пра тое, што перажыла. Разраджаюся.

*— Удзел у паэтычным конкурсе гэта нешта накшталт спартыўнага спаборніцтва?*

— Пра спаборніцтва няма нават гаворкі. Я папросту хацела падзяліцца з іншымі тым, што пішу. Цікавіла мяне, як будуць успрыняты мае думкі. У школе была аб'ява пра конкурс і я рашыла паспрабаваць.

*— А потым запрашалі цябе на творчыя варштаты ў Познань.*

— Так, я два разы туды ездзіла. Глядзела цікавыя спектаклі, хадзіла ў кіно, прымала ўдзел у літаратурных варштатах. Была нагода сустрэцца з мастацтвам.

*— Як успрынялі твае ўзнагароды аднакласнікі?*

— Або я ведаю? Звычайна.

*— У кампаніі аднагодкаў гаворыце пра паэзію?*

— Не. Была ў мяне сяброўка, з якою мы гаварылі. Яна таксама пісала вершы. Пазнаёміліся мы ў санаторыі, але неяк нашы сувязі парваліся.

*— Як на тое, што ты пачала пісаць вершы, паўплывала паэзія тваёй мамы (Зосі Сачко — М.В.)?*

— Не мела ніякага ўплыву. Мама піша сама і я пішу сама.

*— Адзін з тваіх узнагароджаных вершаў прысвечаны памяці дзеда. Смерць бацькі, гэта таксама дамінуючы матыў апошняга зборніка тваёй мамы.*

— Калі памірае блізкая асоба, заўсёды адчуваем вялікі боль. Мой верш, гэта быў унутраны боль. Ён не меў нічога супольнага з тым, што мама піша. Я нават не ведала, што мама таксама піша. Многа маіх вершаў узнікла ў Вольцы, у бабці. Там так прыгожа. Там я перш за ўсё апісвала прыроду.

*— Якую паэзію любіш чытаць?*

— Я чытаю розных паэтаў. Найбольшае ўражанне ў мяне ад паэмаў Эліята і вершаў Бачынскага. Але чытаю розных.

*— Што яшчэ, апрача паэзіі, цябе цікавіць?*

— Я хаджу ў музычную школу першай ступені. Сёлета чакае мяне дыплом у класе фартэпіяна. Дарэчы, раяль, гэта мая любоў. Яшчэ я люблю танцаваць, раней нават на курсы танца хадзіла. Цікавіла мяне матэматыка. Таксама старыя культуры, напрыклад антычнага Егіпта. У будучыні я хацела б стаць археолагам, але гэта пакуль толькі мары, нават не планы. Усё будзе, як Бог дасць. Рэлігія ў маім жыцці займае вельмі важнае месца. Я лічу, што свае спадзяванні не павінны мы звязваць з нейкай неакрэсленай будучыняй, а з верай, з Богам.

*— Ты пісала: „Час нас зняволіў /і чатыры/ сцяны/ абавязкі зняволілі (...)" Ці твае шматлікія зацікаўленні не з'яўляюцца тымі абавязкамі, якія цябе зняволілі?*

— Не, я не адчуваю сябе вязнем гэтых спраў. Чалавек не павінен нічога рабіць на сілу. Хаця я, па сутнасці, не маю вольнага часу, але гэта мой свабодны выбар. Я, відаць, нудзілася б, калі б у мяне быў вольны час. Мае зацікаўленні, гэта кампенсацыя за свабодны час, якога ў мяне няма.

*— Твая ўлюблёная музыка?*

— Шапэн. Я слухаю таксама і папулярную музыку, тое што ўсе. Але нішто і ніхто не раўняецца з Шапэнам.

*— Ці ў іншых дзялянках дасягала ты падобных поспехаў як ва ўспомненым паэтычным конкурсе?*

— Падобных не. Хаця для мяне многа значыць, што я магу граць на раяле, што ўмею чытаць ноты. Гэта для мяне таксама поспех. У сакавіку будзе раённы конкурс англійскай мовы. Летась я не ўвайшла на ваяводскі этап, у гэтым годзе яшчэ раз паспрабую. Але не прымаю я ў ім удзел дзеля нейкага месца, а проста таму, што мяне гэта мабілізуе да працы.

*— Юстына, ці ты калі-небудзь спрабавала аналізаваць свае вершы? Чаго ў іх больш: чыстага натхнення ці цяжкай працы, шліфавання?*

(Юстына доўга думае)

— Не, я пра гэта не думала. Відаць, натхнення.

*— Дзякуй за размову.*

**Гутарыў**
**Мікола Ваўранюк**
**Фота Зосі Сачко**

***

*Памяці дзеда Аляксандра*

калі памірае чалавек
— усё няважнае
дом кніжка гульня
усё застаецца збоч
заснуў сярод ружавых вянкоў
якія плачам і рыданнем
запаўняюць увесь дом
застаецца адзін успамін
жыў хадзіў гаварыў
Дзедка

*12 верасня 1993*

*(Верш узнагароджаны на III Агульнапольскім паэтычным конкурсе для дзяцей, Познань 1994)*

### старая клуня

абымшэлыя вароты
баранілі калісь парогаў каралеўства
звезенага з лугоў і палёў
пах сакавітых траў
круціўся ўсюды
меланхалічны спеў лілеі
туманіў кожны кут

цяпер у тым музеі
мыш скрабе слова

*(Узнагарода на IV Агульнапольскім паэтычным конкурсе для дзяцей, Познань 1995)*

*(Пераклады М. Ваўранюка)*

Зорка
старонка для дзяцей

# III Творчыя сустрэчы

У днях 12—17 лютага г.г. рэдакцыя „Зоркі" праводзіць III Творчыя сустрэчы для карэспандэнтаў. У мерапрыемстве прымаюць удзел таксама вучні школ, у якіх не выкладаецца беларуская мова і моладзь Гайнаўскага беларускага ліцэя.

Арганізатары наладзілі працу ў гуртках: публіцыстычным, літаратурным, пластычным і тэатральным. Заняткі з моладдзю вядуць: Лявон Тарасэвіч, Лена Глагоўская, Алег Латышонак, Дарафей Фёнік, Валянціна Бабулевіч, Яўген Вапа, Ганна Кандрацюк. У час сустрэч прадугледжана прысутнасць вядомых журналістаў і літаратараў — сяброў нашай старонкі.

Удзельніцтва ў творчых сустрэчах з'яўляецца ўзнагародай за энтузіязм для беларускай мовы.

„Зорка"



*У верасні мінулага года дзеці размалялвалі крыж у Меляшках.*
Фота Лёніка Тарасэвіча




Добры дзень,
дарагая „Зорка"!!!

Піша Табе вучаніца VIII класа Пачатковай школы ў Новым Корніне Аня Кіцаль.

Хачу табе расказаць пра тое, як я калядавала разам з сябрамі. Раніцай у першы дзень Каляд пасля снедання, у 10.00 гадзін мы пайшлі калядаваць. На пачатку мы завіталі ў вёску Пуціска, а пасля Чыжыкі. На канец мы прыйшлі ў маю вёску Трывежу. Людзі нас сардэчна прымалі, а за калядку шчыра дзякавалі. Гаспадарам жадалі мы здароўя, шчасця і шчаслівага Новага года. А спявалі мы такія песні як: „Зорка", „Нова радасць стала" і „З новым рокам". Пасля калядавання мы былі змучаныя і ахрыплыя, але надта задаволеныя.

Жадаю Табе, „Зорка", усяго найлепшага і поспехаў у Новым 1996 годзе.

Аня

# Забабоны Дубіцкай гміны

*Вучні сёмага класа Пачатковай школы ў Дубічах-Царкоўных, пад кірункам настаўніцы Галіны Трашчотка, на працягу месяца сабіралі народныя павер'і з тэрыторыі сваёй гміны. Упершыню друкуем у „Зорцы" так багаты і жывы фальклор, сабраны моладдзю. Назавем зараз прозвішчы юных даследчыкаў: Ірэна Кулік, Крыстафор Саевіч, Мікола Фурса, Бася Жубэр, Аня Леанюк, Аня Калбасюк, Ялянта Герасімюк, Давід Скавародка, Андрэй Галёнка, Тамаш Панфілюк, Пятрусь Корх.*

* * *

Хаця набліжаецца ўжо XXI ст. і мы жывем у цывілізаваным свеце, усё ж такі сярод народа захавалася яшчэ вера ў магічную сілу прыроды, яе ўздзеянне на жыццё чалавека. Наш сучасны чалавек часта губляецца ў самых важных момантах сваго жыцця. Мы, маладое пакаленне, не ведаем як паступіць у час шлюбу, што і як трэба зрабіць, а для старэйшых людзей усё было зразумелым і простым. Існавала цэлая сістэма народных звычаяў і абрадаў, якія з'яўляліся арганічнай часткай духоўнай культуры. Многае памерла натуральнай смерцю, не захавалася да нашых часоў, але ёсць яшчэ старыя людзі, якія вераць у магічную сілу слова і нельга таксама гаварыць, што маладыя адцураліся зусім ад спадчыны сваіх дзядоў. Многія вязуць свае дзеці і самі едуць да „бабкі" ў Орлю, Грабавец ці Рутку. У „Ніве" на працягу апошняга года паявілася некалькі артыкулаў пра людзей, якія лечаць словам, і мы, вучні VII класа Пачатковай школы ў Дубічах-Царкоўных, вырашылі дакінуць сваё слоўца. Распыталі старэйшых людзей пра колішнія звычаі, вераванні, забабоны і аказалася, што іх не так многа, а многія з забабонаў вядомыя таксама нам, маладым людзям, хаця часта мы не прыдаем гэтаму ніякага значэння. А гэта, нягледзячы на іх змест, усё ж такі народная спадчына, традыцыя, якую трэба зберагаць.

Народныя павер'і і забабоны можна падзяліць на тры групы:

1. Павер'і звязаныя з найважнейшымі этапамі жыцця чалавечага.
2. Павер'і звязаныя з хрысціянскімі святамі.
3. Чалавечае жыццё і сувязь чалавека з прыродай.

### Нараджэнне дзіцяці

1. У час хрысцін збіралі грошы на кашу і трэба было іх хутка палічыць, каб дзіця пачало хутка гаварыць.
2. Нованароджанаму дзіцяці трэба даць кніжку або ручку, каб добра вучылася.
3. Цяжарнай жанчыне нельга ні ў чым адмаўляць.
4. Калі прывязуць ахрышчанае дзіця то трэба яго паднесці высока ўгору над парогам, то высокае вырасце.
5. Хросныя дзіцяці не могуць быць сужонствы і кумы не могуць жаніцца.
6. Цяжарная не павінна садзіцца на парог, бо дзіця будзе мець дрэнную памяць.
7. Перад хрэсьбінамі кума не павінна выходзіць за сваімі фізіялагічнымі патрэбамі, бо дзіця доўга не будзе самастойна кантраляваць гэтых функцый.
8. Цяжарнай жанчыне нельга дакранацца да агню (апячыся), бо ў гэтым месцы дзіця будзе мець знак.
9. Калі пыталі ў кумаў, як ахрысцілі дзіця, то яны адказвалі „Ціха" або „Соня", каб нова-ахрышчанае дзіця добра спала.
10. Калі дзіця ў час хрышчэння плача — гэта абазначае, што ў будучыні будзе прыгожа спяваць.

### Вяселле

11. У сваты трэба ісці ў чацвер.
12. Едучы да шлюбу маладая не магла аглядацца назад, каб новая сям'я не распалася.
13. Грошы ў боце маладой — сімвал дастатку.
14. Хто першым з маладых стане на ручнічку, той будзе іграць дамінуючую ролю ў сям'і.
15. Калі маладая заедзе першая ў царкву, то народзіцца ў іх дзяўчынка.
16. Калі свечкі трашчаць, маладыя будуць сварыцца.
17. У каго свечка згасне, той заўчасу памрэ.
18. Звязаныя кілішкі ў час вясельнай бяседы абазначалі шчаслівае жыццё маладажонаў.
19. Нельга жаніху бачыць нявесты да шлюбу ў вэлюме, бо будзе няшчасце.
20. Хто ў царкве вышэй трымае свечку, той будзе дамінаваць у сям'і.
21. Удава не мае права адзець на галаву вянок.

### Хаўтуры

22. Калі памерлага выводзілі з хаты, а хтосьці ішоў насустрач, гэта абазначала, што хутка смерць вернецца ў вёску.
23. Калі бацюшка выводзіць з хаты памерлага, то не можа вяртацца па машыну, бо смерць прыйдзе па бацюшку.
24. Калі выводзяць пакойніка з хаты і хтосьці баіцца, то павінен паглядзець на печ.
25. У труну пад падушку трэба палажыць асвячанае зелле, каб душа нам не з'яўлялася.
26. Калі сніцца пакойнік, трэба на магілу пасыпаць мак або грошы, каб душа мела чым заняцца.
27. Хворы, каб выздаравець, павінен дакрануцца балючым месцам да пакойніка, то тады памерлы забярэ хваробу ў магілу.
28. Калі чалавек памірае ў сераду — гэта абазначае, што хутка памрэ хтосьці з родных.
29. Калі зойдзеш да пакойніка, то перш паглядзі на яго ногі, тады не будзеш баяцца.

(*Працяг у наступным нумары*)

Фота Ганны Кандрацюк



*Бася Жубэр і Ёля Герасімюк — сямікласніцы з Дубіч-Царкоўных.*



Талон "Зоркі" н-р 7
18.02.1996

# Галінка ляшчыны

*(беларуская народная казка)*

Было ў бацькі тры дачкі. Аднойчы бацька ад'язджаў на базар:

— Якія падарункі вам прывезці? — папытаўся па чарзе дзяўчат.

— Мне, — кажа найстарэйшая, — прывязіце новую сукенку.

— А мне чаравічкі, — папрасіла сярэдняя.

А самая наймалодшая ціхенька, нясмела прамовіла:

— Калі будзеце ехаць лесам, то адламіце мне арэхавую галінку.

— Які ж гэта падарунак? — здзівіўся бацька.

Дачушка аднак не адступала. Змякчэла бацькоўскае сэрца, ды кажа:

— Ну добра, але каб пазней мне ты не плакала!

Паехаў бацька на базар, накупляў усяго — старэйшай дачушцы сукенку, сярэдняй чаравікі, жонцы чырвоныя каралі.

— Наймалодшай жартаўніцы, — падумаў бацька, — падарунак у лесе раздабуду.

Ужо ў зваротнай дарозе спыніўся ён пры ляшчыне. Падышоў да яе і бачыць, што ўверсе залатыя арэшкі пабліскваюць.

— Ляшчына-дзяўчына, дай галінку маёй дачушцы, — прамовіў бацька.

Аж тут з-пад куста мядзведзь вылез і цап чалавека за руку.

— Ты навошта арэшыну ломіш?

— Дачушка наказала, — пачаў тлумачыцца перапалоханы бацька.

Мядзведзь адламаў галінку і загадаў:

— Узамен аднак прывязеш мне тую дачку.

Прыехаў бацька ў хату, пагаварыў з маткай. Абое плачуць. Пачула іхнія размовы наймалодшая дачушка.

— Я і сама к яму паеду, — неспадзявана заявіла яна бацькам.

Аж тут бачыць, мядзведзь і сам са сватам, у залатой карэце прыехаў. Забраў ён дзяўчыну, а сям'ю на вяселле папрасіў. Заехалі яны пад тую ж арэшыну, а там пад зямлёй палац крышталёвы. А наймалодшая дачка як толькі за парог увайшла, зразу гаспадыняй сябе палічыла.

Гасцілі там усе нашыя героі, ой гасцілі! Мёд-віно пілі. Добрымі былі б дык і нам далі б.

**А. А.**

## Конкурс!

Намалюйце ілюстрацыі паводле гэтай казкі і дашліце іх у „Зорку". Усе аўтары прымуць удзел у жараб'ёўцы. Шчаслівцы выйграюць каляровыя фарбы.

**З-ка**

# ЗАГАД

Ураджай шумлівы на палёх,
лугі, і рэчкі, і азёры,
і магутнейшы бор ад бору —
усё гэта даў нам добры Бог.

Авёс вяцісты, нівы жыта,
пшаніцы звонкае калоссе
і шмат дароў багатых увосень
з зямелькі плодна-сакавітай.

І хаты роднае парог,
красу дзяўчатам нашым мілым,
а дзецюком буйную сілу —
усё гэта даў нам добры Бог.

Даў наквецъ белую садоў,
багацце песняў мілагучных,
а ў сэрцы даў агонь пякучы
кахання да зямлі дзядоў.

І даў загад нам добры Бог:
каб кожны моцнаю рукою
араў загон ды сеяў волю
і Родную Зямлю сцярог.

**Ларыса Геніюш**

## Польска-беларуская крыжаванка н-р 7

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| CYKL ↳ | PYSK → ↓ | | JODŁA → ↓ / WIELO-RYB ↓ | |
| CUD → ↓ / GUZIK ↳ | | | | |
| | | | | |
| DATA → | | | | |

Запоўніце клеткі беларускімі словамі паводле значэнняў, што на польскай мове. Адказы з (наклееным кантрольным талонам) дашліце ў „Зорку" на працягу трох тыдняў. Сярод аўтараў правільных адказаў разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку н-р 2:** каляда, чабан, музыка, шатун, як, малоец, метр, дачушка, нябыт, дакумент, банан, лаза, ямка, лом, цар.

Узнагароды — альбомы для фотаздымкаў — выйгралі:

1) **Аня Раманюк** з Новага Корніна,
2) **Міхась Кубайчук** са Старога Беразова,
3) **Ірэна Дрэўноўская** з Катоўкі,
4) **Анджэліка Сельвясюк** з Бельска-Падляшскага,
5) **Рафал Сухадола** з Нарвы,
6) **Анэта Таранта** з Бельска-Падляшскага,
7) **Іаанна Германовіч** з Махнатага,
8) **Юстына Юрчук** са Снежак,
9) **Марта Тапалеўская** з Кленік,
10) **Віялета Бура** з Нарвы.

Віншуем!

<u>З гісторыі Беларусі</u>

# Вітаўт Вялікі

Князь Вітаўт, сын Кейстута, жыў у 1350-1430 гадах. Падчас ягонага панавання беларуская дзяржава стала адным з палітычных фактараў, які вырашаў пра лёс еўрапейскай палітыкі. Шмат гадоў змагаўся ён са сваім дваюрадным братам Ягайлам, сынам Альгерда, за вялікакняжацкі пасад. Вайна скончылася толькі тады, калі Ягайла стаў каралём Польшчы.

Вялікі князь Вітаўт імкнуўся працягваць палітыку сваіх папярэднікаў і пашыраць межы дзяржавы ва ўсіх напрамках. Намерыўся знішчыць татараў, якія часта атакавалі паўднёвыя акраіны яго дзяржавы. Але ў 1399 г. яго войскі былі разбіты татарамі ў бітве над ракой Ворсклай. Гэта прымусіла князя падпісаць вайскова-палітычнае пагадненне з каралём Польшчы Ягайлам. Неўзабаве войскі Вітаўта і Ягайлы выйгралі вайну з крыжакамі, а ў бітве пад Грунвальдам знішчылі наймагутнейшую еўрапейскую армію. Пасля гэтай перамогі да Вялікага княства вярнулася Жамойція. У 1405 г. Вітаўт далучыў да свае дзяржавы апошнюю беларускую зямлю — Смаленшчыну. Яго краіна стала тэрытарыяльна найбольшай у Еўропе. Пасля перамогі пад Грунвальдам у 1410 г., падтрымкі Вітаўта для свае палітыкі шукалі імператар Жыгімонт і папа рымскі Марцін V. Пры канцы свайго панавання Вітаўт вырашыў каранавацца і прыняць карону з рук нямецкага імператара. Кароны не дачакаўся. Дэлегацыя, якая яе везла, недзе прапала на тэрыторыі Польшчы. Палякі баяліся такога беларуска-нямецкага саюзу і не прапусцілі пасланцаў імператара на Беларусь.

Вітаўт памёр 27 кастрычніка 1430 г. у Троках.

# Яшчэ раз „Роднае слова"

Хіба з-за таго, што на двары трашчаў мароз, на раённы агляд беларускага дэкламатарскага конкурсу для вучняў пачатковых школ у Бельску-Падляшскім замест 82 даехала ўсяго 74 вучні. Сярод іх аж 45 гэта вучні бельскай „тройкі". Былі таксама дзяўчаты і хлопцы са школ у Храбалах, Орлі, Пасынках, Ягуштове. Пераважалі вучні малодшых класаў і іхнія выступленні найбольш падабаліся слухачам.

Дзеткі дэкламавалі вершы і фрагменты прозы розных аўтараў, але найчасцей паўтараліся прозвішчы Эдзі Агняцвет і Віктара Шведа. Былі таксама тэксты іншых "белавежцаў": Надзі Артымовіч, Сакрата Яновіча, Алеся Барскага.

Паколькі малодшыя вучні найчасцей гаварылі жартоўныя вершы, высмейвалі адмоўныя рысы характару іншых дзяцей, расказвалі пра звяроў, цацкі, прыроду, дык старэйшыя дэкламавалі, пераважна, паэтычныя вершы пра беларускую мову і народ. Калі сапраўды гэтая праблематыка так хвалюе моладзь, тады няма чаго баяцца за лёс беларускай нацыі ў Польшчы. Але ж чаму ўсе вучні між сабою гаварылі выключна на польскай мове?

Пасля доўгіх нарадаў, камісія, як сказала яе старшыня спадарыня Тамара Русачык, з ліку ўсіх добрых вылучыла найлепшых. А вось яны.

**Спецыяльную ўзнагароду бурмістра горада Бельска-Падляшскага атрымалі:**

— **Жанэта Роля**, вядомая пастаянным чытачам "Зоркі" вучаніца V „а" класа з „тройкі". (Як сказала яе настаўніца беларускай мовы Валянціна Бабулевіч, Жанэта вельмі любіць паэзію, асабліва Максіма Багдановіча, тым прадэкламавала верш Уладзіміра Караткевіча „Багдановічу"),



*Эля Вязоўская найбольш спадабалася спадарыні Надзеі Артымовіч.*



*Анна Апалінская — вучаніца III „д" класа з „тройкі" (I месца).*

— **Анна Паўлючук** са школы ў Пасынках за верш М. Багдановіча „Астры".

— **Наталля Прызовіч** з „тройкі" за „Пагоню" М. Багдановіча.

**У групе малодшых вучняў першыя месцы ўзялі:**

— Юліта Муха з „тройкі",
— Анна Апалінская з „тройкі",
— Магдалена Лемеш са школы ў Орлі.

**II месцы заваявалі:**

— Магдалена Лазовіч з „тройкі",
— Эвеліна Карчэўская з „тройкі",
— Маргарыта Рыбак са школы ў Орлі.

**III месцы занялі:**

— Юліта Башун з „тройкі",
— Сабіна Пухальская з „тройкі",
— Міраслава Сідарук са школы ў Пасынках.

**Вылучэнні атрымалі:**

— Наталька Сушч з „тройкі",
— Эва Вязоўская з „тройкі",
— Аліна Астасевіч са школы ў Ягуштове,
— Міхал Шэранос і Матэвуш Карчэўскі з „тройкі",
— Кацярына Васілюк і Данель Грыгарук са школы ў Орлі,
— Міхал Прызовіч з „тройкі".

**У групе старэйшых вучняў першае месца атрымала Моніка Калішэвіч** з „тройкі".

**II месцы:** Галена Сідэвіч і Пеця Лук'янчук з „тройкі".

**III месцы:**

— Магдалена Якуць з „тройкі" і Анна Сідарук са школы ў Храбалах.

Вылучэнні:

— Анна Дзмітрук са школы ў Храбалах і Анна Наумчук са школы ў Ягуштове.

**Аліна Ваўранюк**
**Фота аўтара**

# Вучнёўская творчасць

## Размова беларусаў

Беларус, беларус, беларус —
ці магчыма ім быць?
— Немагчыма!
Беларус, беларус, беларус,
дзе твой кут, дзе радзіма?
Ці „ты" думкі свае палоніш,
ці „ты" ведаеш, памятаеш?
Ці забыўся, заснуў, анямеў,
ці айчыну сваю аплёўваеш?
— Не, не ве̇даю, не, не хачу
і даведацца я не жадаю!
Не хачу беларусам я быць! —
з Беларуссю суполкі не маю!

## Мая школа

Мая школа — дзіўная рэч:
клас, падлога, парты
штодзённы матыў — калектыў.

**Аня Садоўская,**
вучаніца VII кл. ПШ у Нарве

# Раённыя агляды „Беларускай песні'96"

## У Беластоку

Лічба 18, якой абазначана ў пратаколе колькасць выканаўчых адзінак у беластоцкім раённым аглядзе конкурсу беларускай песні, не зможа перадаць таго ўздыму і той атмасферы, што панавалі ў перапоўненай зале Беларускага таварыства пры вуліцы Варшаўскай 3 лютага г.г.

Змяшаліся вясковыя фальклорныя калектывы з моднымі вакальна-інструментальнымі групамі, маладыя і старыя, ды людзі ў „слушным" узросце. Усіх іх аб'яднала адно: замілаванне да роднай песні.

Малады па стажу калектыў з Паўлаў у аглядзе выступае ўсяго другі раз, а падкупіў не толькі слухачоў, але і журы сваёй натуральнасцю, непаўторнасцю. У песнях гэтых жанчын чуваць раздолле і радасць плённай працы. Калі зацягваюць яны свае матывы, бачым іх вёску, грыбныя лясы, зялёныя лугі, дзе чыстае паветра аж звініць.

Восем жанчын яшчэ без казённых касцюмаў, у вышываных уласнымі рукамі фартушках, белыя зрэбныя блузкі, чырвоныя каралі на шыі ды чырвоныя хусткі, падвязаныя назад, як да працы, ствараюць непаўторнае ўражанне аўтэнтычнасці. Брава, Паўлы!

Магутны калектыў, што працуе пры Беластоцкім аддзеле Беларускага таварыства, выступіў аж у трох версіях: жаночая група, мужчынская і поўны хор. Дзесяць гадоў таму назад стварыла яго Люба Гаўрылюк, а ўжо некалькі гадоў даязджае сюды музычны інструктар і акампаніятар Віктар Маланчык з Гародні. Неўзабаве будзе выдадзена касета з запісамі песень у выкананні беластоцкага хору.

Люба Гаўрылюк ужо дзейнічае не толькі ў гэтым хоры, але і ў вёсцы Козлікі, куды пераехала жыць на пенсіі. І козліцкі хор становіцца слаўным.

Ажыў мужчынскі калектыў з Рыбалаў, вядомыя „Хлопцы-рыбалоўцы". Кіруе ім цяпер і спявае разам з усімі Янка Бурнос, мясцовы рэгент. У калектыве дванаццаць асоб, ёсць яшчэ ахвотныя. Даязджае пару асоб з Паўлаў, Заблудава.

Значна павысіўся ўзровень „Журавінак" з Агароднічкаў, калектыў разросся і актыўна дзейнічае ў сваім наваколлі.

Ну, і славуты гарадоцкі хор. „Пра іх усё ўжо сказана, напісана, праспявана, — сказала вядучая Валянціна Ласкевіч. — Гэта сімвал беларускасці. Сотні канцэртаў далі яны на працягу сваёй больш чым саракагадовай дзейнасці ў краіне і за мяжой".

А мне хочацца дадаць, што пра іх амаль прафесійнае майстэрства будзе напісана яшчэ не адно. І ёсць пра што пісаць! Вазьміце хаця б частушкі Ніны Цыванюк, якая ў калектыве 42 гады, ад пачатку.

Цешыць найбольш, што калектывы не толькі не знікаюць з нашага далягляду, а наадварот, колькасць іх павялічваецца, а ў калектывы прыходзяць маладыя людзі. Яны найчасцей становяцца маторам усіх пачыnanняў.

Выступілі на аглядзе вакальна-інструментальныя групы: „Ада", „Ас", „Рэаль", маладзёжная група „Каласкі" пад кіраўніцтвам Алы Дубец. Ужо няма ў продажы касет з калядкамі ў выкананні калектыву „Ада". Публіка з вялікім энтузіязмам успрымае маладзёжныя групы, спяваючыя беларускія песні ў модных рытмах.

Выступалі на аглядзе таксама салісты і дуэты.

Месцы, якія прызнала журы (Ежы Сьрудкоўскі, былы дырэктар Музычнай школы ў Беластоку, з Гародні: кампазітар Андрэй Бандарэнка і культурны дзеяч Віктар Губіч):

**У катэгорыі фальклорнай песні**

салісты:
I месца — Ані Антушэвіч, студэнтцы Філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку, салістцы калектыву „Ада",
калектывы:
I месца — жаночаму калектыву з Паўлаў,
III месца — калектыву „Журавінкі" з Агароднічкаў.



*Частушкі ў выкананні Ніны Цыванюк з Гарадка.*

**У катэгорыі апрацаванай фальклорнай песні**

салісты:
I месца — Любе Гаўрылюк,
дуэты, тэрцэты, квартэты:
I — дуэту: Люба Гаўрылюк і Уладзімір Іванюк,
II — дуэту: Уладзімір Іванюк і Анатоль Стэпанюк.

**У катэгорыі вакальных і вакальна-інструментальных калектываў**

I месца — калектыву з Гарадка і жаночай групе беластоцкага хору,
II — „Каласкам" і мужчынскай групе беластоцкага хору,
III — калектыву з Козлікаў.

**У катэгорыі сучаснай песні**

салісты:
I месца — Юрыю Налівайку,
калектывы:
I месца — калектыву „Ас",
II месца — калектыву „Рэаль".

У катэгорыі хораў I месца заняў хор, што працуе пры Беластоцкім аддзеле БГКТ.

Спецыяльную ўзнагароду за творчасць атрымалі: Ніна Цыванюк з Гарадка і калектыў „Хлопцы-рыбалоўцы".

Пасля агляду выступіў калектыў „Гасцінец" з Гародні. Было шмат гумару, народных інструментаў, песень, прытупаў. Людзям такое падабаецца!

**Ада Чачуга**
**Фота Сяргея Грынявіцкага**



*"Журавінак" стала больш.*

## У Бельску

4 лютага 1996 г. у Бельскім доме культуры прайшлі чарговыя раённыя элімінацыі III Агульнапольскага фестывалю беларускай песні. Арганізавала агляд, як і ў іншых мясцовасцях, Беларускае грамадска-культурнае таварыства не без дзейснай дапамогі гаспадароў аб'екта. Правесці мерапрыемства фінансава дапамаглі: бурмістр Бельска-Падляшскага, войты Арлянскай і Бельскай гмінаў, Рада бацькоў пры Беларускім Агульнаадукацыйным ліцэі імя Б. Тарашкевіча, фірмы „Унібуд" і „Крэс".

У канцэрце па дзве песні праспявалі самадзейнікі з Дубяжына, Кнарыд, Краснага Сяла, Орлі ды самога Бельска — „Маланка", „Васілёчкі" і моладзь з белліцэя. „Цешыць тое, што ў нашых аглядах прымае ўдзел усё больш і больш моладзі, — сказала вядучая канцэрт Валянціна Ласкевіч, сакратар Галоўнага праўлення БГКТ, — бо моладзь, гэта наша будучыня".

Іншай характэрнай з'явай гэтага канцэрта, апрача шырокага ўдзелу вучняў з Ліцэя Тарашкевіча, была дамінацыя мясцовага фальклору ў падборцы рэпертуару . Інструктары з Беларусі таксама, здаецца, сталі аддаваць перавагу нашым песням з Падляшша.

А калі пра інструктараў, дык побач добра вядомых, як дырэктар БДК і стваральнік „Маланкі" Сяргей Лукашук і нядаўні яшчэ кіраўнік „Васілёчкаў", а цяпер „Бярозак" з Кнарыд, Аліна Нігярэвіч, паказаліся маладыя: Альжбета Рыжык і Уладзімір Сахарчук. Эля Рыжык вышэйшую адукацыю набыла ў Роўным на Украіне, цяпер навучае дзяцей украінскай мове і вядзе калектыў „Родына" з Дубяжына. Валодзя Сахарчук, пасля адукацыі ў Менску, працуе настаўнікам музыкі ў Пачатковай школе ў Орлі, вядзе хор „Васілёчкі" ды стварыў апошнім часам хор у бельскім беларускім ліцэі. (Абое яны яшчэ нядаўна былі вучнямі тае школы).

На канец запрэзентаваўся калектыў „Гасцінец" з Гродна, музычным кіраўніком якога з'яўляецца Аркадзь Карповіч. Госці з-за мяжы, як заўсёды, ігралі і спявалі народныя песні як сапраўдныя прафесіяналы, цалком задавальняючы публіку, якое — улічваючы, што за канцэрт трэба было заплаціць 30 тысяч — сабралася нямала.

**Мікола Ваўранюк**

## У Гайнаўцы

Не давялося нам быць на гайнаўскім аглядзе, а шкада. Старшыня Беларускага таварыства Ян Сычэўскі сказаў нам, што было там прадстаўлена нязвыкла вялікае багацце калектываў, мастацкіх форм. Было 40 выканаўчых адзінак, выступалі салісты, дуэты, тэрцэты, хор з Гайнаўкі. Дастаткова сказаць, што агляд працягваўся больш пяці гадзін.

Як сцвердзіла ацэначная камісія, мастацкі ўзровень калектываў Гайнаўшчыны няспынна ўзрастае. Голым вокам відаць творчыя пошукі, прыбыло новых выканаўцаў, паявілася цалкам новая аранжацыя.

Выступіў амаль новы калектыў з Нараўкі, пры „Пронары" ў Нарве паявіўся эстрадны калектыў, якім кіруе Генадзь Шэмет.

Пад кіраўніцтвам царкоўнага рэгента выступіў зусім новы калектыў з Белавежы. У ім шэсць асоб: сам рэгент, чатыры спяваючыя дзяўчыны і адна, што іграе на клавішных інструментах.

Цікава выступіла „Чарамшына" з Чаромхі, паказаўся новы калектыў са Збуча.

Але ашарашыў усіх сваім высокім мастацкім узроўнем Гайнаўскі беларускі ліцэй. Былі ў іх і салісты, і дуэты, і большыя калектывы. Спрыяў гэтаму, несумненна, прыход у ліцэй настаўніцы Бажэны Леўчук, якая закончыла ў Менску Музычную акадэмію па класу фартэпіяна. Менавіта яна кіруе ў ліцэі мастацкай самадзейнасцю.

Удзельнікі агляду занялі наступныя месцы:

**Фальклорная песня**

салісты:
I — Ірэна Лукша з Мора,
II — Вольга Ахрымюк з Чыжоў,
III — Кацярына Ціханюк са Збуча,
дуэты, тэрцэты, квартэты:
I — квартэт з Чаромхі
II — тэрцэт з Тыневіч
III — дуэт: Ніна Грыгарук і Марыя Яканюк з Курашава,
вакальныя калектывы:
I — „Арэшкі" з Арэшкава,
II — „Тыневічанкі" з Тыневіч-Вялікіх,
III — „Незабудкі" з Курашава.

**Фальклорная апрацаваная песня**

салісты:
I — Міхась Артышэвіч з Кляшчэляў, вылучана Анна Карэтка з Нараўкі,
дуэты, тэрцэты, квартэты:
I — квартэт „Цаглінак" са Старога Ляўкова,
II — сямейны квартэт Якімюкоў з Чыжоў,
III — мужчынскі квартэт калектыву „Чыжавяне" з Чыжоў,

вакальныя і вакальна-інструментальныя калектывы:
I — мужчынская група хору Гайнаўскага дома культуры,
II — калектывы „Цаглінкі" са Старога Ляўкова і „Чарамшына" з Чаромхі,
III — „Чыжавяне" з Чыжоў,

хоры:
I — хор Гайнаўскага дома культуры.

**Сучасная песня**

салісты:
I — Крыстына Сегень з „Пронару" (Нарва),
II — Эва Якубоўская („Пронар", Нарва) і Мар'юш Ажахоўскі з Гайнаўскага беларускага ліцэя,
III — Іаанна Масайла з Гайнаўскага беларускага ліцэя,

дуэты, тэрцэты, квартэты:
I — дуэт з „Пронару",
II — квартэт з Нараўкі,
III — дуэт з Гайнаўскага беларускага ліцэя: Іаанна Масайла і Эва Акочук,

вакальныя і вакальна-інструментальныя калектывы:
I — вакальна-інструментальны калектыў з „Пронару" (Нарва),
II — вакальна-інструментальны калектыў з Гайнаўскага беларускага ліцэя,
III — вакальна-інструментальны калектыў з Белавежы.

**Ада Чачуга**

# Лес не ведае мяжы

Першы раз волю супрацоўніцтва ў галіне лясной гаспадаркі паміж Міністэрствам аховы асяроддзя, натуральных рэсурсаў і лесаводства Польскай Рэчы Паспалітай ды Міністэрства лясной гаспадаркі Рэспублікі Беларусь выказалі на афіцыйным форуме ў час II Сходу Польска-беларускай змешанай камісіі па справах гаспадарчага і гандлёвага супрацоўніцтва ў снежні 1994 г. у Бярэсці тыдышні віцэ-міністр прафесар Анджэй Шуецкі і міністр Вялянцін Зорын. Праз два месяцы тыя ж ураднікі падпісалі ў Менску супольную дэкларацыю аб супрацоўніцтве ў галіне лесаводства, у якой зарысоўвацца абсяг будучай супольнай працы. Наладжаны былі таксама непасрэдныя рабочыя кантакты паміж Рэгіянальнай дырэкцыяй дзяржаўных лясоў у Беластоку і такімі ж у Гародні ды Бярэсці (перш за ўсё ў важнай справе інфармацыі аб пагрозе пажараў на памежжы). У 1995 г. беларускія лесаводы колькі раз удзельнічалі ў сустрэчах і спецыялістычных семінарах, між іншым на тэму барацьбы са шкоднымі насякомымі, селекцыі, генетыкі і ляснога насенняводства. У кастрычніку 1995 г. дэлегацыі польскіх і беларускіх экспертаў узгоднілі тэкст дамовы і прадставілі праект плана супрацоўніцтва. 25 студзеня г.г. гэту дамову падпісалі ў Варшаве міністры Станіслаў Жаліхоўскі і Валянцін Зорын.

Абодва дамаўляючыеся бакі абапіраюцца на Трактат аб добрым суседстве і супрацоўніцтве Польшчы і Беларусі, падпісаны 23 чэрвеня 1992 г., падкрэсліваюць патрэбу ўмацавання міжнароднага супрацоўніцтва ў галіне лесаводства ў маштабе рэгіянальным і глабальным. Лес — адзін з фактараў раўнавагі натуральнага асяроддзя, якія маюць найбольшы ўплыў на захаванне жыцця і цывілізацыйны прагрэс. Выпаўняе ён ахоўныя, вытворчыя і грамадскія функцыі, і неабходна пагадзіць усе сферы — рацыянальнае здабыванне драўніны і іншых лясных прадуктаў з пазапрадукцыйнымі функцыямі. Неабходна планаваць захаванне ў неабмежаванай перспектыве часу стабільнага жыцця лясных экасістэм, ахоўванне і ўзбагачанне біялагічнай разнастайнасці відаў і паболыпванне лясных рэсурсаў — згодна з канцэпцыяй трывалага, пастаяннага і зраўнаважанага развіцця. Гэтыя справы кранаюць і пастановы Канферэнцыі ААН „Асяроддзе і прагрэс" (1992 г.), якія датычаць лясоў, Х Сусветнага кангрэса (Парыж 1992 г.) і Другой Панеўрапейскай міністэрскай канферэнцыі па справах аховы лясоў у Еўропе (Хельсінкі 1993 г.).

У дамове польскі і беларускі бакі маюць намер развіваць супрацоўніцтва ў наступных галінах лесаводства: дасканаленне метадаў карыстання з лясоў, стварэнне і арганізацыя асабліва ахоўваемых тэрыторый, адбудоўванне лясоў, іх вырошчванне і захаванне генетычных рэсурсаў (насенняводства, гадавальнікі, аблясенне, перамена стану лесу, дагляданне), ахова лесу (дасканаленне метаду маніторынгу, — прагноз паяўлення небяспечных шкодных насякомых, асабліва манашкі (brudnicy mniszki) і карaеда-тыпографа, метадаў папярэджвання шкодаў, сучасныя метады перасцерагання, каардынацыя барацьбы з пажарамі і іншымі „антрапагеннымі" вынікамі дзейнасці). Абодва бакі супрацоўніцтва будуць абменьвацца інфармацыяй у галіне адміністравання лясамі (з выкарыстаннем статыстычных і вялікамаштабнатэрытарыяльных і іншых метадаў), у справах арганізацыі і кіравання паляўнічай гаспадаркай, паляўнічага закону (арэнды паляўнічых зон, парадак ацэнкі страт учыненых звярамі і выплата кампенсацый, утрыманне аптымальнага пагалоўя звяроў, паляўнічы турызм).

Польскі бок мае асаблівыя дасягненні ў гадавальніцтве — закладцы і вырошчванні лясных плантацый разнастайных раслін, бяспечнай для асяроддзя тэхналогіі прац. Важнае таксама ёсць і дастасаванне метадаў кіравання ў працэсе адаптацыі да ўмоў рынычнай гаспадаркі, прамоцыя гандлёвага абмену — тэхналогіямі, насеннем, расадай, драўнінай і іншымі ляснымі прадуктамі, арганізацыя выставак і торгаў драўніны і іншага. Развівацца мае і супрацоўніцтва ў галіне дасканалення метадаў падрыхтоўкі і навучання леснікоў і экалагічнай адукацыі грамадства.

Супрацоўніцтва будзе праводзіцца наступным чынам: рэалізацыяй аднолькавых праграм і планаў, супольных нарадаў, кансультацый, сустрэч экспертаў, арганізацыяй семінараў, сімпозіумаў, курсаў на тэрыторыі абедзвюх краін, абменам даследчыкамі і экспертамі, правядзеннем супольных даследаванняў, абменам навуковымі працамі і навукова-тэхнічнай і практычнай інфармацыяй. Дамова міністэрстваў мае законнасць пяць гадоў і аўтаматычна будзе прадаўжацца на наступныя пяцігадовыя перыяды.

Лес не ведае межаў. Не цікавяць яны ні ваўка, ні карaеда, ні дуба, ні полымя. Хочам дыхаць чыстым паветрам, каштаваць здаровыя ягады ды грыбы, цешыць душу прыгожым краявідам. „Нашым дзецям трэба таксама штосьці пакінуць, — зaўважыў кіраўнік беластоцкай Рэгіянальнай дырэкцыі лясоў Збігнеў Гадлеўскі. — А лес — супольнае багацце".

**Міра Лукша**

# РАДЗІМА — РОДЗІНА

### Частка XLIII

У часе маіх сустрэч з Фёдарам Баршчэўскім толькі вельмі рэдка праяўляў ён пазітыўныя адносіны да ідэі незалежнасці Беларусі. Гаварыў, што не шкодзіла б, „каб у Беларусі ўсё было па-беларуску". Найчасцей аднак моцна акцэнтаваў ідэю поўнага адзінства з Расіяй, уключна з супольнай дзяржавай. Лічыў, што працэс распаду Савецкага Саюза прынясе няшчасці ўсім народам, якія ўваходзілі ў састаў СССР. Паводле Фёдара Баршчэўскага распад Савецкага Саюза наступіў не па волі насяляючых яго народаў, а толькі па інспірацыі Амерыкі.

„Ты хоць і учоны, але многаго ні панімаеш. Табе здаецца, што Савецкі Саюз развальваецца, бо так хочуть народы. Дудкі, праўда! Гэто ўсё падстроілі амерыканцы. Гэто яны знашлі Гарбачова і Ельцына. Яны толькі ім сунулі долараў, што хваціт ні толькі ім, але іх дзецям, унукам і праўнукам. Але ўсё то пашло ад Хрушчова. Гэто ён распачаў усю гэту вашабойню. Ты знаеш, тут да Колі Міруця то пару разоў прыязджаў яго сваяк з Свіслачы. Ён то быў якімсе вялікім варацілаю пры Хрушчове. То ты знаеш, што ён нас тут, бывало, збярэ і пачынае бунтаваць процій Сталіна. Гаварыў, што Сталін то і праступнік, і разбойнік, і бандзіт. А нашто гэто ляпаць? Мы ж і самі знаем, што з таго Сталіна то была добра халера, але нашто нападаці на пакойніка? І ты знаеш, што нарэшце таму чудаковi з Свіслачы сказаў Коля Міруць? Сказаў так: „Мой бацько памер тады само, калі памер Сталін, у 1953 року. То, што б падумалі людзі, калі б я пачаў выходзіць на гуліцу і крычаць, што мой бацька то быў і злодзей, і лайдак, і жулік, і праступнік. То ж ужэ пра маго бацька ўсе людзі забылі, бо пpaшло ўжэ пачці што сорак лет ад яго смерці. Ну, пра маго бацька тут ужэ ніхто і ні думае, але пра мяне то падумалі б, што я добры сукін сын, калі сваго бацька так аплёвую. От, таксамо вышло з вашым Сталіном і Хрушчовым. Людзі думают, што сукін сын ні Сталін, але Хрушчоў. Таксамо будуць думаці і пра Гарбачова і пра Ельцына. На нябожчыка то легко плеваці, але робят гэто толькі жулікі, але ні чэсны людзі.

Ну, то ты знаеш, гэты чудак з Свіслачы то замаўчаў як усраўшыся і больш ужэ ні бушаваў, мой пане.

Я ўжэ табе гаварыў, што тут да нас кожны дзень спекулянты з Беларусі прыязджают. Ну то я з імі ўсе вяду размовы. От, учора адзін прыехаў „Ладаю" з прычэпаю. Разлажыў такі базар, што свет ні бачыў. Усяго навёз поўно! Жароўка ў яго каштуе дзве тысячі, напільнік тры тысячы, піла да жалеза дваццаць тысяч. Ну, усё даром. Я яго пытаю, чом так танно прадае. А ён мне, знаеш што кажэ? „Батенька, всё что я привёз ворованное. Договариваемся с кладовщиками на базах и они нам дают. Им хорошо, и нам хорошо. Привезу ему и его жене польского барахла и они счастливы. А и мне кое-что останется".

Я так гляджу, а ў яго між гэтым барахлом лежат дзве старые-старые іконы. Ну то я его пытаю скуль узяў іконы. А ён мне кажэ: „Иконы, батя, тоже ворованные. Со сторожом церковным сговорился и привожу понемножку. Покупай, батя, продам по двести тысяч за штуку. Не удивляйся, батя, что я тебе искренно говорю. Воруют все. Ворует Горбачов и Ельцын, так почему я, работяга, должен быть честным?"

Ты знаеш што, ведомо, што ў Расеі кралі заўшэ. Кралі і ў Савецкім Саюзе. Але ніколі так ні было, каб так аб гэтом адкрыто гаварылі. Ты знаеш, ён просто хваліўсе тым, што крадзе. Калісь то хоць крыху баялісе або устыдалісе, а сегодня то ўжэ німа ніякого страху і ніякого ўстыду. Ну то ты мне скажы, чы ж гэто ўсё нармально? От табе і маеш! Бачыш, што значыт развал Савецкаго Саюза. А ты мне гаворыш, што гэто добрэ, мой пане. Якое дабро, гэто гібель!"

**Алесь Барскі**

# Царква ў Маркавым манастыры

*(заканчэнне; пачатак у папярэднім нумары)*

Яшчэ адной адметнасцю царквы быў драўляны трох'ярусны іканастас, афарбаваны пад золата, а месцамі вызалачаны. Ягоныя ярусы былі скампанаваныя з разьбяных калон з капітэлямі, якія ўтваралі прыгожыя аблямоўкі для абразоў. Іканастас быў выкананы рэзчыкамі Я. Паддубцам і І. Качарам з Чарэі, І. Магілёўцам з Магілёва, а таксама А. Маркевічам і І. Галубковым з Віцебска. Да нашага часу дайшоў толькі маленькі фрагмент іканастаса Троіцкай царквы Маркава манастыра — скульптурная кампазіцыя „Майсей і Давід", якая захоўваецца зараз у Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь.

Да 1890-х гадоў у царкве захоўваўся ліпавы 8-канцовы крыж вышынёй каля 60 сантыметраў з выразаным на ім тэкстам аб часе асвячэння храма. У надпісе паведамлялася аб тым, што царква была асвечана Лазарам Барановічам, архіепіскапам чарнігаўскім, і Феафанам Івановічам, ігуменам Маркава манастыра, „у гонар і славу Святой Жываначальнай Тройцы ў лета ад Нараджэння Хрыстова 1691 месяца траўня 31 дня, у дзень Сашэсця Святога Духа". У канцы XIX ст. гэты крыж разам з іншымі старажытнымі рэчамі быў перададзены з царквы ў Віцебскі царкоўна-археалагічны музей, аднак да нашага часу ён не захаваўся.

У Троіцкай царкве знаходзілася і частка манастырскай бібліятэкі. Сярод рарытэтаў гэтага кнігазбору былі рукапісныя „Мінея месячная" XVI ст. і скапіраваны перапісчыкамі ў XVIII ст. „Лімантар" Спірыдона Собаля, якія ў XIX ст. трапілі ў аддзел рукапісаў Віленскай публічнай бібліятэкі.

Віцебскі Маркаў манастыр большую частку свайго існавання знаходзіўся ў падпарадкаванні кіеўскіх мітрапалітаў. Выключэнне склалі толькі два гады вайны Маскоўскай дзяржавы з Рэччу Паспалітай (1654-1656), калі манастыр быў далучаны да маскоўскай патрыярхіі. У гэты час маскоўскі патрыярх Нікан ахвяраваў манастыру абраз Казанскай Божай Маці, які потым захоўваўся ў Троіцкай царкве, дзе для яго ў іканастасе быў зроблены спецыяльны ківот, упрыгожаны пазалочанай разьбой. У ківоце вакол галоўнага размяшчаліся 17 маленькіх абразоў, якія адлюстроўвалі падзеі, звязаныя з Прасвятой Багародзіцай: Нараджэнне Хрыстова, Увядзенне ў храм, Благавешчанне, Успенне, Пакроў і інш. У сувязі з тым, што Троіцкая царква была халоднай, і набажэнства ў ёй на зіму перапынялася, абраз Казанскай Божай Маці на гэты час пераносіўся ў цёплую Пакроўскую царкву. Гэты абраз у народзе лічыўся цудатворным і выклікаў да сябе заўсёды вялікае паломніцтва.

Узведзеная народнымі майстрамі Троіцкая царква Віцебскага Маркава манастыра вызначалася выключнай трываласцю. У 1824 г. протаіерэй Іаан Грыгаровіч пісаў пра яе: „Храм гэты варты ўвагі па моцы сваёй, бо па прашэсці 132 гадоў яшчэ моцны і зараз". На пачатку 1890-х гадоў пад кіраўніцтвам настаяцеля Маркава манастыра архімандрыта Іларыёна ў царкве былі перароблены некаторыя элементы яе вонкавага і ўнутранага аблічча. Гэтыя перапобкі з пратэстамі былі сустрэты мясцовай інтэлігенцыяй і аматарамі даўніны.

Зараз храм цалкам знішчаны і месца яго колішняга размяшчэння забудавана.

**Людміла Хмяльніцкая,**
**Віцебск**

# Праваслаўнае школьніцтва на беларускіх землях у XVI—XVIII стагоддзях

*Працяг са стар. 9*

мает". Пасля брэсцкага сінода патрыяршы протасынгел Нікіфар, дацэньваючы ролю школы, абумовіў, каб у гэту брацкую ўстанову не прымаць уніятаў або іх прыхільнікаў. Аб ролі школы ў фарміраванні рэлігійнай свядомасці праваслаўнай грамадскасці сведчыць факт, што тагачасны уніяцкі епіскап Гедэон Бральніцкі (1601—1618) у 1601 годзе абвінаваціў яе ў выхоўванні бунтароў.

Дзейнасць школы на тэрыторыі горада была спынена ў 1619 годзе, калі кароль Зыгмунт III Ваза падпарадкаваў брацкія ўстановы уніяцкаму полацкаму архіепіскапу Іасафату Кунцэвічу (1618—1623). Пасля забойства Кунцэвіча канцлер Вялікага княства Літоўскага Леў Сапега (1588—1623) загадаў падпарадкаваць у 1624 г. брацтва уніяцкаму ігумену манастыра св. Спаса.

Магілёўская брацкая школа прапанавала пашыраную праграму навучання. Вучылі ў ёй граматыкі, рыторыкі, дыялектыкі, арыфметыкі, геаметрыі, астраноміі і музыкі. Апрача гэтай школы на тэрыторыі горада дзейнічала некалькі элементарных школ, у якіх навука зводзілася да вывучэння царкоўнаславянскай, рускай і польскай моў. У такіх школах асаблівая ўвага адводзілася зразуменню Свяшчэннага Пісання і літургіі.

Важным цэнтрам праваслаўнага элементарнага і сярэдняга школьніцтва быў Мінск. Тамашняе шпітальнае брацтва 11 верасня 1592 г. атрымала каралеўскую прывілею на заснаванне школы з мэтай „навукі малых дзяцей, утрымання бакалаўра і навучання ў ёй грэчаскаму і рускаму". Гэтую школу ўпамінаюць крыніцы яшчэ ў 1601 г., а як праваслаўная спыніла яна існаванне ў 1612 г.

У 1613 г. у месца брацтва пры саборнай царкве ўзнікла новае брацтва святых Пятра і Паўла, якое дзейнічала пры Свята-Петрапаўлаўскім манастыры. Брацтва мела школы „для памнажэння славы Божай і вучэння ў ёй дзяцей". У 1614 г. мінскае брацтва прыняло статут віленскага брацтва, што паўплывала на пашырэнне праграмы навучання на грэчаскую і лацінскую мовы. Гэтая школа сапернічала з уніяцкай, якая знаходзілася пры царкве святых Кузьмы і Дзям'яна. Уніяты і мінскі ваявода Пётр Тышкевіч імкнуліся падпарадкаваць праваслаўную школу сваёй юрысдыкцыі. Нягледзячы на такія спробы, праваслаўная школа ў Мінску працавала далей пад кіраўніцтвам брацтва і ігумена манастыра, а 18 сакавіка 1633 г. брацтва атрымала каралеўскую прывілею, якая пацвердзіла яго выключнае права на школу і друкарню. Праваслаўныя школы датрымаліся ў горадзе аж да падзелаў Рэчы Паспалітай. Апорай у іх дзейнасці ў XVIII ст. быў манастыр святых Пятра і Паўла ды царква св. Мікалая. Апрача пералічаных, вядомыя былі праваслаўныя школы шырэйшага, чым элементарны, профілю навучання ў Пінску пры Багаяўленскай царкве (пач. XVII ст.), пры Цэперскім манастыры ў Навагрaдскім павеце (1618), у Еўі каля Вільні (1619), у школе Ашмянскага павета (1625), пры Баркулабаўскім манастыры (1626), у Буйнічах (1633), пры Куцеінскім манастыры Аршанскага павета (1630) і ў Полацку.

Школы адкрываліся за сродкі мяшчан і праваслаўнай шляхты ў гарадах, у прыватных маёнтках і пры манастырскіх цэнтрах. Апрача брацкіх школ моладзь з тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага наведвала брацкія школы ў Львове, Кіеве, Луцку, Любліне, Холме, Замасці, Галічы, штудзіравалі таксама ў Астрожскай акадэміі ў Астрогу і ў Магілянскай акадэміі ў Кіеве. Існавалі таксама вясковыя школы на элементарным узроўні. Узровень навукі ў гэтых асветных установах залежаў ад умеласці настаўніка (свяшчэнніка або псаломшчыка).

*(заканчэнне будзе)*

**Антон Мірановіч**

## Позірк у мінулае

**18 лютага**
1468 г. — Джордж Кларэнс, брат англійскага караля, асуджаны за здраду і па яго ўласнаму жаданню ўтоплены ў бочцы, напоўненай віном „Мальвазія".
1546 г. — памёр Марцін Лютар, нямецкі рэлігійны рэфарматар.
1574 г. — памёр Мікеланджэла, італьянскі разбяр.
1745 г. — нар. Аляксандр Вольта, італьянскі вынаходца электрабатарэі.
1893 г. — нар. пісьменнік Максім Гарэцкі.
1932 г. — нар. Мілаш Форман, чэшскаамерыканскі кінарэжысёр.
1946 г. — нар. паэтэса Надзея Артымовіч.
1984 г. — у выніку італьянска-ватыканскага канкардату каталіцызм перастаў быць дзяржаўнай рэлігіяй у Італіі.
**19 лютага**
1473 г. — нар. астраном Мікалай Капернік.
1861 г. — цар Аляксандр II адмяніў паншчыну.
1890 г. — нар. асветнік Казімір Сваяк.
1941 г. — нацысцкая лекарская камісія ў Білефельдзе пачала селекцыю псіхічна хворых з мэтай пазбаўлення іх жыцця.
**20 лютага**
1962 г. — першы амерыканскі астранаўт Джон Глен акружыў Зямлю.
**21 лютага**
1878 г. — у Нью-Хавене ў штаце Канектыкут выйшла першая ў свеце тэлефонная кніга.
1937 г. — нар. Гаральд V, кароль Нарвегіі.
1972 г. — мягкае прызямленне савецкага „Лунніка-20" на Месяцы.
**22 лютага**
1732 г. — нар. Джордж Вашынгтан, першы прэзідэнт ЗША.
1857 г. — нар. Роберт Паўэл, англійскі заснавальнік скаўтынгу („гарцэрства").
1901 г. — Леў Талстой адлучаны ад Праваслаўнай царквы.
1915 г. — Нямеччына аб'явіла неабмежаваную вайну падлодкамі супраць Антанты.
**23 лютага**
302 г. — кесар Дыяклетыян выдаў эдыкт, якім уводзілася праследаванне хрысціян.
**24 лютага**
1815 г. — памёр Роберт Фултан, амерыканскі канструктар першага парахода.
1848 г. — Карл Маркс і Фрыдрых Энгельс аб'явілі ў Лондане „Камуністычны маніфест".
1905 г. — прабіўка Сімплонскага тунеля ў Альпах між Італіяй і Швейцарыяй.
1939 г. — Венгрыя і Манджукуо прыступілі да антыкамінтэрнаўскага пакта.
1946 г. — Хуан Дамінга Перон выйграў выбары ў Аргенціне і правіў дыктатарскімі метадамі да 1955 года.

**(Ш)**

Каляндар прыроды

## ЛЮТЫ

Люты — другі месяц года і апошні зімы. Надвор'е з вялікімі маразамі і мяцеліцамі адпавядае сэнсу назвы месяца — злы, суровы. Ад лацінскай назвы абраду язычніцкага свята ачышчэння *februa* паходзіць яго сучасная руская назва *февраль*. Назва лютага на ўкраінскай мове — *лютий*, на польскай — *luty*, на чэшскай — *únor*, на славацкай — *februar*, на старажытнаславянскай — *сѣчень*, на верхнелужыцкай — *mali rožk*, на славенскай — *svečan*, на сербскахарвацкай — *фебруар* ды на балгарскай і македонскай — *февруари*.

Налічвае ў сёлетнім высакосным годзе 29 дзён. У сярэдзіне лютага даўжыня дня павялічваецца на больш як на 2 гадзіны. Вышыня сонца над гарызонтам у поўдзень — 23,3°. Сярэдняя тэмпература паветра ў лютым — -4,3° С. Абсалютны мінімум -40° С быў адзначаны ў Белавежы ў 1929 годзе. Паўтаральнасць моцных маразоў меншая, чым у студзені. Адбываецца пераход тэмпературы паветра праз -5° С у бок павышэння. Вільготных дзён 12—18. У сярэднім у Беластоцкім ваяводстве 3—7 дзён з мяцелiцай, пахмурных — 15—17. Норма ападкаў 30—40 мм.

Звычайна павялічваецца таўшчыня снегавога покрыва, глыбіня прамярзання глебы. У канцы лютага таўшчыня лёду на рэках і ў Семяноўскім возеры дасягае 35—60 см.

**(яц)**

## Масленіца

Масленіца — старажытнае перадвеснавое свята ў славянскіх народаў, звязанае з провадамі зімы і адраджэннем пладаносных сіл зямлі. Святкавалі яе некалькі дзён з абявязковымі блінамі, вясёлымі песнямі і гульнямі, катаннем на санках. Выконваліся абрады, якія павінны былі паскорыць абуджэнне прыроды, магічна садзейнічаць будучаму ўраджаю, дастатку селяніна. Спальвалі чучала зімы, палілі вогнішчы, вадзілі карагоды, спявалі масленічныя песні.

* * *

*У нас сягоння масленіца!*
*Прыляцела к нам ластавіца,*
*Села, пала на калу,*
*Скінула масла па каму.*
*А хто ўхопіць — так таму.*
*Наша Агашка хапліва,*
*Тое масла схапіла,*
*У кубачку стапіла,*
*Свайго мілага паіла:*
*„Пі, мой мілы, хоць да дна,*
*А я ў цябе буду адна".*

Традыцыі масленіцы захаваліся і цяпер у святкаванні провадаў зімы.

**(яц)**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне! Я атрымала новую кватэру — вялікую, прыгожую. Старую, маленькую, прадала. У гэтай кватэры жыве цяпер адзінокая жанчына. І вось у сне я прыйшла ў тую старую кватэру. Гляджу, а яна такая прасторная, пашыраная, раскутыя ўнутраныя сцены. І гэта ўсё зрабіла тая жанчына. Я ў яе пытаю: „Ці ж гэтак можна рабіць?" А яна мне адказвае: „З кіраўніком паўлітроўку выпілі і дазволіў". Мне шкада стала маёй кватэры. Каб яна такая прасторная была — нікуды б мы адтуль не пайшлі. І так скончыўся сон.

**Люся**

Дарагі Астроне, я суджуся з суседзямі. Не ведаю, як вырашацца мае справы, хутка будзе суд. А тут сніцца мне вось такі сон. Бачу многа мужчын. Яны сядзяць. Адзін з іх, што сядзеў спераду, кінуў назад вянчальны пярсцёнак і я яго злавіла. Пярсцёнак быў шырокі і з прыгожага золата.

**Чэся**

Люся! Твой сон навеяны рэчаіснасцю. Відаць, справа сапраўды так мелася ў тваім жыцці, што шкада табе было тваёй старой кватэры. У думках мусіла ты вяртацца да яе даволі часта, калі сніцца яна табе па начах.

Але, праўду кажучы, дык тое, што ты ў сне вярнулася ў сваю старую кватэру, можа абазначаць, што вернешся да старога кахання, або прыпамісі сустрэнешся з былым каханкам.

А твой, Чэся, сон можа абазначаць, што справы твае пойдуць у добры бок. Могуць быць яны звязаны з судовымі справамі, хаця абручальны пярсцёнак прадвяшчае вяселле. Думаю, што табе цяпер не да вяселля.

**Астрон**

## ПАРНАСІК

### Мароз

Мароз не слабее,
А нават мацнее.
Зіма марозная,
Як кажуць, злосная.
Першы снег, як упаў,
Дык не прапаў.
Переважна ён растае,
Зіме пачатак дае.
Летам гарачыня дакучае,
Але жывы свет не прападае.
Жар касцей не ломіць,
Мароз хутчэй паломіць.
Мо ён ліхое трошкі знішчыць —
На што будзем лічыць.
Ліхое, гэта паразіты, *стонка...*
Ды вельмі карысная божая кароўка.
Варта, каб мароз ачысціў прыроду
Ад усякай смярдзючай пароды.
Бо мы на гэта бяссільныя,
Але на чужы грэх мы пільныя.
Свой грэх нас не абходзіць,
Таму да крывадушнасці прыводзіць,
Да заразы, вайны...
Не памогуць і царкоўныя званы.
Ад марозу мы ўцякаем,
Пра сябе і дабытак дбаем.
Каб кароўкі не запусціліся
І дрэнныя сны нам не сніліся,
Матэрыялізм, скупасць, грошы...
Каб сніліся нам вошы!
Бо ведаем, што гэта добры сон
Блізка сэрца і родных вакон.
А ці любім птушак і дзікіх звяроў,
А не толькі любімых кароў?
І з машыннага парку злом
І матэрыял на каробкі — салому.
Няхай мароз адмарозіць скупасць
і пагарду,
Тады мы будзем у парадку.
Каб у нас адрадзіліся пачуцці родныя,
Тады мы будзем духоўна свабодныя.

**Мікалай Панфілюк**

### Люты

Люты гэта месяц
Карацейшы ў року.
Накармі кароў ты,
Каню дай аброку.
Крышку ты падумай
Аб звярах у полі.
Вынесь трохі сена,
Накармі іх удоваль.
Падзівісь на птушкі,
Як яны страдаюць.
Няма чаго есці,
З голаду ўміраюць.
Дай ты птушкам хлеба
І зярняткаў трошкі,
А як пацяплее,
Заспяваюць звонка.
Будуць яны пеці,
Нас развесяляці,
Раніцаю цёплай
Шчасце аб'яўляці.
Дзякуй табе скажуць,
Нізка пакланяцца,
Сэрца развяселяць.
Будзем радавацца.

**Мікалай Лук'янюк**

## ДВУХЛІТАРНАЯ КРЫЖАВАНКА

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | | 3 | | 4 |
| | ▒ | 5 | 6 | | ▒ | |
| 7 | 8 | ▒ | | ▒ | 9 | |
| | 10 | | | | | |
| 11 | | ▒ | | ▒ | 12 | 13 |
| | ▒ | 14 | | 15 | ▒ | |
| 16 | | | | 17 | | |

**Гарызантальна:** 1. споведзь, 3. расліна, якая прыгожа і пахуча цвіце, 5. цвёрдая мінеральная парода, 7. сацыял-рэвалюцыянер, 9. царкоўны сігнальны іструмент, 10. работнік, які выконвае нейкую функцыю, 11. эстрадны калектыў, 12. міжземнаморская выспа, 14. скопішча плодаў або кветак на адной галінцы, 16. тэрытарыяльная адзінка ў Швейцарыі, 17. п'янства, папойка.

**Вертыкальна:** 1. іспанскі канкістадор Мексікі, 2. чалавек чорнай расы, 3. квітанцыя, 4. дзяржаўная граніца, 6. зона з высокім атмасферным ціскам паміж цыклонамі, 8. сталіца Турынгіі, 9. мясцовасць, у якой нарадзіўся св. Гаўрыіл, 11. любіць гуляць, 13. няўка на работу без уважлівых прычын, 14. рака ў Славакіі, рыток Дуная, 15. паверхневая частка ствала дрэва.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

Адказ на святочны касяк з 53 н-ра:
Направа: калапс, кентаўр, Данілаў, ацэнка, папа, кантроль, Аўраам, Даліштэ, Нямунас, Плутарх, Кіта, ААН, айва.
Налева: какаду, Лунінец, праклён, арка, праўда, „Эрнані", паралель, кераміка, абмотка, планета, торт, аса, „Ніва".

Кніжныя ўзнагароды высылаем Аляксандру Дабчынскаму і Лукашу Пацэвічу з Беластока.

## Памост прусаў

Думаю, што чытачоў зацікавіць, як калісь жылі прусы. Не быў гэта так варварскі народ, як гэта часам прадстаўляецца ў нашай гісторыі. Вучоныя з Інстытута археалогіі і этналогіі Польскай акадэміі навук у Варшаве, якія ад некалькіх гадоў вядуць доследы ў Святым Гаі каля Паслэнка, у палове кастрычніка аб'явілі вынікі сваіх прац. Даследавалі яны адкрыты там драўляны памост з прускіх часоў. Памост гэты, перакінуты праз багну, мае больш чым кіламетр даўжыні. Збудаваны ён з папярочна паложаных дубовых брусаў, узмоцненых на баках лагунамі. На гэтую канструкцыю вырубана ў навакольных лясах 2—3 тысячы кубікаў дубіны. Была гэта вялікамаштабная інжынерская работа. Праведзеныя метадам дэндралогіі доследы паказалі, што апошні слой дубоў паложаны тут у 1096 годзе. Агулам адкрыта восем слаёў з розных стагоддзяў. Вучоныя мяркуюць, што памост у Святым Гаі спалучаў славянскі і балцкі берагі і служыў камунікацыйным і гандлёвым мэтам. Раней вучоныя раскапалі драўляны памост на рацэ Дзеждань, а над возерам Дружна гістарычны порт Труса, дзе знайшлі манеты, гаршкі, металічныя ўпрыгожанні. Пэўна і Святы Гай адкрые яшчэ не адну тайну. Археолагі вернуцца сюды праз год.

**Андрэй Гаўрылюк**




**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 421-033.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Рэдагуе калектыў:
Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міранович (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**
**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".**
Старшыня Праграмнай рады — Валянцін Сельвясюк

Prenumerata.
1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1996 r. upływa 20 lutego 1996 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 9,10 zł (91 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.
Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,45 zł (14 500 st. zł), a kwartalnie — 18,85 złotych (188 500 st. zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.




## Даўней бывала

Пайшла маці з маленькай дачушкай у касцёл у Дзень задушны. А ксёндз маліўся за душы памерлых і чытаў: *за душу* Івана, *за душу* Паўла, *за душу* Міхала. Тая малая дзяўчынка слухае, слухае, а потым тузае маці:

— Мама! Уцякайма, а то і нас *задушыць*!

* * *

У 1939 годзе, як першы раз прыйшлі саветы, адзін савецкі салдат зайшоў у касцёл. А там правілася імша і ігралі арганы. Дык той салдат давай танцаваць. А адна старэнькая бабулька падыходзіць да яго і гаворыць:

— Салдаціку, што ты робіш? Гэта святая *імша*.

А салдат ёй адказвае:

— Бабушка, мне і так добра. Мне не патрэбна *інша*.

* * *

У 1945 годзе быў я на фронце. Адзін рускі салдат спытаў мяне, што абазначае „СССР". Я адказаў яму, што гэта Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. А ён мне гаворыць:

— Ты, бачу, не ведаеш, што гэта абазначае. А значыць гэта: Сталін с... соленай рыбай.

А пасля яшчэ дадаў:

— СССР, гэта — смерць Сталіна спасе Расію.

**Аляксандр Барташэвіч**



Малюнак А. Каршакевіча

## ЛАЙДАКІ

Бацька з малым сынам ідуць паўз вінна-гарэлачны магазін, дзе стаіць вялікая чарга.

— Тата, а хто гэтыя дзядзькі?

— Гэта гультаі, якія не хочуць самі гнаць самагонку.

**М. Кавалёў**

## СМЕХ У САНАТОРЫІ

**"Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка**

— Ёсць толькі пяць месцаў, дзе хацеў бы цябе цалаваць, — шэпча ён.

— Назаві іх, — прымільваецца яна.

— Акапулька, Вена, Нью-Йорк, Рым і Парыж.

* * *

— Ахвотна прадаў бы я кажух.

— Маеш ужо купца?

— Маю.

— Дык прадай.

— Ды не маю кажуха.

* * *

— Ці ў вашых венах выпадкова не плыве кроў еўрапейцаў? — пытае мужчына стройнага негра.

— Усё магчыма: мае продкі ахвотна іх елі.

* * *

Лекар аглядае Колю перад прызывам у войска:

— Ці быў ты калі патурбаваны ў нешчаслівым выпадку?

— Так. Аднойчы цягнік уехаў у тунель і...

— Вывернуўся!

— Не! Замест дзяўчыны пацалаваў я ў губы яе бацьку.

* * *

Прыходзіць стары да лекара:

— Пан доктар, маю клопат са слыхам — людзі смяюцца з мяне. Калі знюхаю смурод, тады толькі ведаю, што пусціў газы.

— Разумею. Вось вам рэцэпт на лякарства.

— Ці пасля гэтага буду пускаць газы?

— Будзеце так грымець, што напэўна пачуеце.

* * *

Размаўляюць два лекары:

— Ведаеш што! Удалося мне вылечыць клептаманку: захоўваецца цяпер як кожная нармальная жанчына.

— Гэта значыць, што больш не крадзе?

— Крадзе, але толькі тое, што ёй сапраўды патрэбнае.

* * *

Пані Вісьнеўска наносіць візіт у псіхіятрычны кабінет:

— Пан доктар, маю вялікі клопат: я застала ўчора майго сынка з дачкою суседа. Былі без трусікаў і аглядалі сябе ўзаемна.

— Гэта нічога дзіўнага — дзеці ўсяго цікавыя. Я б гэтым не пераймаўся.

— Да гэтага нельга ставіцца абыякава! Я і сынава жонка гэтым абураны.

* * *

Прыходзіць баба да лекара, а ў яе апечаныя вушы.

— Што здарылася? — пытае лекар.

— Я прасавала, і ў той час пазваніў тэлефон.

— Гэта разумею. А другое вуха?

— Хацела пазваніць па хуткую дапамогу.

* * *

Прыходзіць баба да лекара з перавязанымі нагой і рукой.

— Што з вашай рукою? — пытае лекар.

— Ток мяне ўдарыў.

— А з нагою?

— Аддала яму.

<u>У кіпцюрах цэцерука</u>

## Бюро знаходак

— Ало? Бюро знаходак?

Голас у тэлефоннай трубцы быў такі ўпэўнены, што які-небудзь адказ здаўся мне лішні. Усё-такі адказваю:

— Так, вы добра трапілі.

— Кіраўніка давайце.

— Я вас слухаю. А з кім маю гонар?

— Вы кіраўнік?

— На самай справе, — адказваю і сам сабе прызнаюся, што чалавек, які ўчапіўся за процілеглы канец тэлефонных правадоў, пачынае мяне аўтэнтычна інтрыгаваць.

— Генерал гаворыць, — чую з другога канца. Маўчу хвіліну, корпаюся паспешна ў думках, якое дачыненне можа мець нейкі генерал да маёй скромнай асобы. — Вельмі важны генерал, — голас у трубцы спыняе мае роздумы. — Ёсць справа.

— Так, я слухаю вас.

— Згубіліся танкі. Чатыры. Учора.

— Дадумоўваюся, прапалі на палігоне?

— Калі вось не! — у голасе майго субяседніка адчуваю раздражненасць. — На палігоне ёсць усе, дваццаць штук. А тыя чатыры вось тут стаялі, побач Галоўнага штаба. Ноччу нехта зрабіў дзірку ў сетцы і па-айшлі!

— А вартавы нічога не бачыў, не страляў? — пытаю.

— Вартавы, вартавы. Чатырох было вартавых! У покер гулялі. А страляць не было як. Амуніцыя ў пульцы якраз была. Армія, ведаеце, бедная. „Жолд" сімвалічны.

— Так, я разумею. Танкаў, на жаль, сёння ў нас няма. Усё-ткі апішыце іхні выгляд. Пачакаем дзень-два. Мо хтосьці прывядзе.

— А што тут апісваць. Танк як танк. Вежа, ствол, гусеніцы.

— Так, так. Я гэта ведаю. Аднак патрэбны мне больш дакладныя інфармацыі. Колер, калібр...

— Як колер?! — трубка зарыкала бы раздражнены леў. — Які калібр?! Вы што, шпіён?!

— Гэта ж вы самі... — пачынаю нясмела.

— Маўчаць! Вартавых колькі, танкаў колькі на палігоне! Дам я табе танкі! Гарэлку з чужаземцамі п'еш, га?!

— Прынесла ўчора адна турыстка літр „Сібірского мэдвэдя". Пашпарт згубіла і...

— Маўчаць! Прозвішча, імя, адрас!!! Толькі міі-ігам!

Бачу, справа ідзе ў кепскім напрамку.

— Пан генерал, — прабую яшчэ ратаваць шкуру, — гэта ж вы шукаеце ўкрадзеныя танкі...

— Якія танкі?! Якія ўкрадзеныя?! — верашчыць з другога боку. — Вы смееце ўнушаць, што ў нашай арміі можна от так сабе ўкрасці танкі?! Вы мала што шпіён, ды яшчэ і правакатар! Сядзіце там і чакайце. Зараз жа нехта прыедзе.

Доўга я не чакаў. Прыехалі ўчатырох мінут праз пятнаццаць.

А потым ужо ў судзе высветлілася, што я — высокакваліфікаваны агент, у тайных архівах названы крыптанімам „Колін".

Аказалася яшчэ і тое, што дамоў вярнуся ў лістападзе 2020 года.

**Міхась Андрасюк**




Сэрцайка! Маё жыццё вельмі сумнае. Апрача сынка — няма ў нашым доме мужчын. Мы жывем з мамай, а бацька — у другім канцы горада. Развяліся яны ўжо даўно, тады, калі я была яшчэ малая. Бацька зусім не цікавіцца намі — ні малой, ні мною, ні ўнукамі. У яго цяпер новая сям'я.

Калі мае бацькі разводзіліся, бацька хацеў узяць на выхаванне майго брата, а мяне мела б выхоўваць мама. Вядома, мама не згадзілася. Памятаю, як сёння, як бацька прасіў яе, каб дазволіла наведваць нас хаця час ад часу. „Грошы на стол — і вон!" — крычала маці.

Памятаю тыя страшэнныя скандалы з біццём талерак і шклянак. Да сёння не магу зразумець, што іх так падзяліла, але бацька часамі мяне перапрашаў, што выбраў нам на маці „такую страшную бабу".

Да нас мама не была кепская. Старалася, як магла, каб мы з братам усё мелі. Але праўда і тое, што лічыла нас быццам сваёй уласнасцю — ніякага пярэчання не пераносіла. Нават не дапускала думкі, што яе дзеці могуць нешта зрабіць насуперак яе волі.

А мне спадабаўся хлопец, які маме ў нечым не падыходзіў. Мы сустракаліся паціху, каб мама не бачыла і не ведала. Я не хацела яе нерваваць, бо магла сабе ўявіць, чым бы гэта магло для мяне скончыцца. Проста магла б выгнаць мяне з дому, так як выгнала калісьці бацьку. Яна была бескампрамісная.

Ну, але, сталася. Я зацяжарыла, і трэба было сказаць маме, што я выходжу замуж. „За каго?" — спыталася. „Ну, за таго", — сказала я. Маці аж пабляднела, зрабілася непрыемная, але канстатавала: „Вяселле зробім і — да пабачэння!"

Усё сталася так, як яна і сказала. Было вяселле, а пасля мы пайшлі жыць на кватэру. Хутка нарадзіўся сынок, а пасля і дачушка. Маці не хацела мяне знаць. Нічога не памагла пры ніводным дзіцяці, не папільнавала, не падкінула яды. Самі далі мы рады з усім.

І трэба сказаць, што толькі тады, калі мой муж адышоў з іншай, мама ізноў ласкавым вокам глянула на мяне. Узяла нас у сваю кватэру, прыгрэла, пацешыла. Але, падкрэсліваю, толькі тады, калі я засталася адна з дзецьмі. У мамы быў адзін аргумент: „А не казала я?" Мушу сказаць, што мама цяпер нас корміць і поіць. Я іду на працу, а яна займаецца дзецьмі, як сваімі. Толькі вось майго мужа мама не ўпускае на парог. Не ведаю, ці добра яна робіць, бо мае дзеці сумуюць па бацьку. Ён дык знайшоў сабе іншую, але да дзяцей адносіцца вельмі добра. Мая мама нават не дазваляе, каб пайшоў з імі на санкі ці ў заапарк.

Найгорш адчувае самотнасць мой сын. Яму, як нікому, не хапае бацькі. І я бачу, што ён пачынае хуліганіць, а мы, жанчыны, не маем на гэта ніякага ўплыву. Патрэбна яму бацькоўская рука.

А што датычыцца мяне, дык і я ж хацела б знайсці якогась чалавека. Ужо нават думала напісаць у тэлебачанне на тую „рандку ў цемна", нават сын мяне гоніць, бо бачыць, як мне цяжка адной. Але мая мама гэтых спраў не разумее. Кажа, што толькі скампрагметуюся. Што рабіць?

Анна

Анна! Твая маці, відаць, паталагічна не любіць мужчын. Зрабіў сваё і — бывай здароў! Бадай, яе мадэль сям'і — гэта бабы і дзеці. А мужыкі ёй непатрэбныя. Цяжка будзе табе быць даўжэй у мамінай кватэры. Кожнаму чалавеку патрэбная нейкая незалежнасць. Нават дзеля таго, каб сустрэцца з некім, або прыняць у сябе былога мужа, які мог бы прыйсці і наведаць дзяцей.

Ну, але вядома, што кватэру купіш, калі будзеш мець грошы. Дык мо пакуль што паспрабуй сама кудысьці выходзіць, сустракацца з людзьмі. А з мужам таксама можаш сустрэцца недзе ў горадзе, каб паказаць яму дзетак. Іншая справа, што яны і так пахваляцца бабулі пра сустрэчу з бацькам.

Што ж зробіш, дзеці сабе маці не выбіраюць.

Сэрцайка